ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 29 3 жніўня 1995 г.

(2431) Выдаецца з 1955 г. Цана 800 рублёў.

## СВЯЦЕЙШЫ ПАТРЫЯРХ АЛЯКСІЙ II НА БЕЛАРУСІ



**Візіт свяцейшага Патрыярха Маскоўскага і Усяе Русі Аляксія II на Беларусь пачаўся 22 ліпеня і працягваўся да 26. Прыезд кіраўніка Рускай праваслаўнай царквы прысвечаны 50-годдзю агульнай Перамогі братніх народаў у Вялікай Айчыннай вайне супраць фашызму. У сваім першым ітэрв'ю ля трапа самалёта Яго Святасць, вызначаючы мэту свайго візіту на беларускую зямлю, сказаў, што гэта ўжо яго другі візіт у Беларусь. "Брэсцкую епархію я наведаю ўпершыню, яна стане сорак чацвёртай епархіяй, якія я наведаў за пяць гадоў свайго патрыяршага служэння. Наш час вельмі складаны, таму кіраўнік Царквы павінен ведаць не павярхоўна, па справаздачах, а асабіста бачыць, як адраджаецца царкоўнае жыццё. Наведванне Мінскай, Гродзенскай, Брэсцкай епархій дасць мне магчымасць бачыць гэта жыццё на свае вочы.**

**НА ЗДЫМКУ: Патрыярха Маскоўскага і Усяе Русі АЛЯКСІЯ II прыняў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ТРАГІКАМІЧНАЯ ГІСТОРЫЯ РЭДАКТАРА "МИНСКОГО СЛОВА" Густава ШМІДА

## ЛЮСТЭРКАВАЯ СІМЕТРЫЯ

Парадоксы і трагікамічныя падзеі, апісаныя ў гэтым нарысе, адбыліся ў губернскім Мінску ў гады 3-й, так званай "стальпінскай" Дзяржаўнай Думы (лістапад 1907 -- чэрвень 1912 гады). Падзеі аднаўлены паводле тагачасных мінскіх рускамоўных газет ("Минское слово", "Голос провинции", "Окраины", "Минский курьер" і інш.) і архіўных матэрыялаў (Цэнтральны дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі ў СПб, Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Беларусі).

Гэта быў час, калі вялікадзяржаўнашавіністычныя групы, аб'яднаныя ў "Саюз рускага народа" (у прастамоўі -- чарнасоценцы) пачалі шалёны наступ на асяродкі дэмакратыі, абвясцілі вайну беларускаму нацыянальнаму Адраджэнню, польскай і яўрэйскай меншасці ў так званым Паўночна-Заходнім краі з мэтай выратаваць і ўвекавечыць самадзяржаўную Расійскую імперыю. Тагачасныя падзеі, на маю думку, пераклікаюцца з нашай сучаснасцю. Больш таго, паміж імі ёсць выразная люстэркавая сіметрыя, якую, відавочна, заўважыць наш чытач.

Цытаты з архіваў і газет, асабліва ў "жанры" палітычнай бульваршчыны і лаянкі, для большай "экспрэсіі" прыводзяцца ў расійскім арыгінале.

Гісторыя грамадска-палітычнага жыцця Беларусі пачатку XX стагоддзя багатая на парадоксы і кур'ёзы. Хоць часам гэта быў сарданічны смех -- карнавальнае абсмейванне нябожчыкаў. Адным словам, у нашай гісторыі былі свае трагікамедыі.

Вось толькі адзін фарс. Ён папярэднічаў той трагікамічнай драме, пра якую я збіраюся распавядаць. Калі ў газеце "Северо-Западный край" напярэдадні рэвалюцыі 1905 года ўзмацнілася радыкальная апазіцыйная плынь, то на рэдактара М. Мысаўскага паляцелі ў сталіцу шматлікія даносы, пазначаныя анонімам "руские люди окраины". Сярод даносаў аказаўся дакумент, падпісаны сапраўдным прозвішчам. Вось ён (цытую са скарачэннямі па расійскаму арыгіналу):

"Докладная записка Могилевского мещанина Шлиомы Беркова Гинзбурга от 17 марта 1905 года Батюшку Царю: Высочайший Указ от 18 февраля даровал великое шчастье каждому верноподданному доложить Великому Батюшке Царю, что по мнению его можно сделать для вящего устройства благополучия народа (...).

Смутное настроение последнего времени, непростительная агитация злонамеренных лиц, подрывание доверия к Правительству -- все это сильно возмущает человека, преданного Престолу и Отечеству. Я считаю своим святым долгом как сына великого народа, ЦАРЯ нашего, принести к стопам ЕГО ИМПЕРАТОРСКОГО ВЫСОЧЕСТВА сей мой доклад. В г. Минске издается газета "Северо-Западный Край", которая ведет преступную агитацию против всего отечества, Правительства и подчас (против) ВЕЛИКОГО нашего русского Престола, попирая все святое и истинно русское. Собравшаяся компания из политических преступников под предводительством редактора-издателя М.П. Мысавского травит и возмущает народ против Государственного строя".

Далей Ш.Б. Гінзбург пераказвае рэвалюцыйныя публікацыі газеты ад 25 мая 1905 года, якія канчаюцца лозунгам "Пролетарии всех стран, соединяйтесь!", і працягвае: "Представляя настоящую мою докладную записку Комитету Министров, имею честь покорнейше просить по рассмотрению представить на Высочайшее ЕГО ИМПЕРАТОРСКОГО ВЕЛИЧЕСТВА государя ИМПЕРАТОРА благоусмотрение.

На настоящей записке руку приложиил: Верноподданейший ЦАРЯ и отечества Могилевской губ. мещанин Шлиома Берков Гинзбург". Да гэтай "дакладной" прыкладзены экземпляры газеты "Северо-Западный край".

У чым тут парадокс і кур'ёз? Іх аж два. Па-першае, тут Ш.Б. Гінзбург перайграў сваіх канкурэнтаў -- "русских людей окраины" і сам выступіў у ролі "истинно русского".

(Працяг на 6-й стар.).

## "СЛАВЯНСКІ БАЗАР-95"



**IV міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар" завяршыўся. Віцебск традыцыйна адсалютаваў апошнім акордам заключнага гала-канцэрта і прыціх, зноў прывыкаючы да будзённай плыні жыцця.**

**Пасля конкурсу маладых выканаўцаў стала вядома, што Гран-пры павёз у Югаславію Філіп Жмахер.**

**НА ЗДЫМКУ: уладальніцай звання "Міс Славянка-95" стала беларуска Алена КУДРАШОВА.**

(Заканчэнне на 8-й стар.).

*НОВЫЯ ПАСОЛЬСТВЫ*



Пасольствы Англіі і Італіі ў Рэспубліцы Беларусь справілі наваселле па вуліцы К. Маркса ў Мінску. На цырымоніі адкрыцця пасольстваў прысутнічалі намеснік міністра замежных спраў Італіі Э. Скамак і дзяржаўны міністр замежных спраў і па справах Садружнасці Вялікабрытаніі Н. Бонсар, члены дыпламатычнага корпуса, акрэдытаванага ў рэспубліцы, прадстаўнікі грамадскасці беларускай сталіцы.

Італьянскае пасольства, адзначаючы сувязі Італіі і Беларусі, што склаліся гістарычна, устанавіла копію мемарыяльнай дошкі, выкананай скульптарам В. Янушкевічам і прысвечанай Ф. Скарыне. Гэты мемарыяльны знак адкрыты нядаўна ў горадзе Падуя, дзе вучыўся беларускі асветнік.

НА ЗДЫМКУ: будынак пасольстваў Англіі і Італіі ў Мінску.

*У МІНІСТЭРСТВЕ СТАТЫСТЫКІ І АНАЛІЗУ*

## АБ ГРАШОВЫХ ДАХОДАХ НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСІ

Як паведаміла Міністэрства статыстыкі і аналізу, грашовыя даходы насельніцтва рэспублікі за першае паўгоддзе гэтага года ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага ўзраслі ў 13,3 раза. У той жа час спажывецкія расходы на набыццё тавараў і аплату паслуг у параўнанні са студзенем--чэрвенем мінулага года ўзраслі ў 13,1 раза.

Асноўнай крыніцай даходаў большай часткі насельніцтва па-ранейшаму з'яўляецца заработная плата. Сярэднямесячная заработная плата з улікам сацыяльных і працоўных выплат і матэрыяльнай дапамогі ў студзені--чэрвені склала 301 тысячу рублёў. Што да зарплаты ў чэрвені, то, па ацэнцы спецыялістаў, яна павінна скласці каля 800 тысяч рублёў. У той жа час цэны на спажывецкія тавары і паслугі з пачатку года ўзраслі ў 2,7 раза, у тым ліку на 21,4 працэнта -- пасля апошняга перагляду мінімальнай заработнай платы. Цэны на харчовыя тавары за месяц павялічыліся ў цэлым на 2,1 працэнта.

*ПРАМЫСЛОВАСЦЬ*

## ПЕРАВАГА — БЕЛАРУСКАМУ РУХАВІКУ

На Мінскім маторным заводзе падрыхтавана да адпраўкі першая партыя рухавікоў для Маскоўскага завода імя Ліхачова.

Гэта дызель Д-245 магутнасцю 110 конскіх сіл. І прызначаны ён для новай мадэлі аўтамабіля "ЗІЛ-5301" грузападымальнасцю 2--2,5 тоны. Плануецца, што ў гэтай машыны вялікая будучыня, таму што на яе робіць стаўку рознага роду прыватнікі -- прадпрымальнікі, фермеры. Ствараючы гэты "малатанажнік", зілаўцы правялі своеасаблівы конкурс пры выбары для яго рухавіка. І з вялікай колькасці прапанаваных мадэляў, куды ўваходзілі нават узоры заходніх фірмаў, аддалі перавагу менавіта беларускаму.

*НАРАДЫ*

## ПАЗІЦЫЯ АПАЗІЦЫІ

Адбылася нарада грамадскіх і палітычных дзеячаў Беларусі. У ёй прынялі ўдзел С. Шушкевіч, З. Пазьняк, В. Быкаў, Н. Гілевіч, Г. Карпенка, Д. Булахаў, У. Карагін, І. Нікітчанка і іншыя.

На ёй ішла гаворка аб неабходнасці выратавання беларускай дзяржавы ў сувязі з імкненнем прэзідэнцкай улады правесці "аб'яднанне" з Расійскай Федэрацыяй і стварэння з гэтай мэтай шырокай кааліцыі палітычных, грамадскіх і культурных сіл, якія стаяць на пазіцыях суверэнітэту і незалежнасці Беларусі. Падтрымана ідэя склікання кангрэса гэтых сіл і стварэння масавай незалежнай газеты.

*НАВІНЫ НАЦЫЯНАЛЬНАГА БАНКА*

## З ГРАШОВАГА АБАРОТУ ВЫВОДЗЯЦЦА КУПЮРЫ ВАРТАСЦЮ 10 І 25 РУБЛЁЎ

Адпаведным рашэннем Нацыянальнага банка рэспублікі прадугледжана, што з 1 жніўня выпуск разліковых білетаў 10 і 25 рублёў прыпыняецца.

Раней, як вядома, такая ж доля напаткала купюры вартасцю 50 капеек, 1, 3 і 5 рублёў. Суб'ектам гаспадарання рэкамендавана здаць разліковыя білеты названай вартасці ў банкі, якія іх абслугоўваюць, для залічэння на рахункі. Цэны на вырабы і паслугі будуць акруглены да 50 рублёў, а на штучныя тавары -- дыферанцыравана, у залежнасці ад кошту тавару. Разам з тым разліковыя білеты Нацбанка Беларусі вартасцю 50 капеек, 1, 3, 5, 10 і 25 рублёў захоўваюцца ў якасці плацежнага сродку і падлягаюць абавязковаму прыёму да поўнага іх выключэння з грашовага абароту.

*АПОШНІЯ ВЫПРАБАВАННІ*

## ПРЭЗІДЭНЦКІ САМАЛЁТ

Да палётных выпрабаванняў самалёта ТУ-154М прадстаўнічага класа прыступіла самарскае АТ "Авіакор". Новая машына прызначана для Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі.

У адрозненне ад серыйных яна мае салон-кабінет, спальны пакой, невялікую кухню. Пра цану лайнера не паведамляецца. Па сцвярджэннях спецыялістаў, яна на 75 працэнтаў ніжэйшая, чым у падобных самалётаў заходняй вытворчасці.

У першых чыслах жніўня прэзідэнцкі самалёт будзе накіраваны заказчыку.

*ЮБІЛЕІ*

## УВЕКАВЕЧЫЛІ ПАМЯЦЬ ЗЕМЛЯКА

Мемарыяльная дошка з'явілася на будынку былой так званай настаўніцкай школы ў Дзятлаве, дзе ў 1909---1912 гадах вучыўся Ігнат Дварчанін. Так удзячныя землякі ўвекавечылі памяць рэпрэсіраванага ў 1937 годзе вучонага-асветніка, вядомага дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Урачыстае адкрыццё дошкі прымеркавана да 100-годдзя з дня яго нараджэння. Юбілейнай даце прысвечана таксама праведзеная тут навукова-практычная канферэнцыя.

*ЗАМЕЖНЫЯ КАНТАКТЫ*



Найноўшыя кнігі на англійскай мове атрымалі вышэйшыя навучальныя ўстановы, бібліятэкі і англійскі культурны цэнтр у Віцебску. Гэты дар ім паднеслі амерыканцы муж і жонка Вольга (па паходжанні беларуска) і Тэа Райс.

НА ЗДЫМКАХ: Вольга і Тэа РАЙС з кнігамі, падараванымі бібліятэкам і інстытутам Віцебска; жыхары Віцебска знаёмяцца з навінкамі навуковай літаратуры на англійскай мове.



*АДЗІНАЕ ВЫДАВЕЦТВА*

## "ЛІТАРАТУРНЫЯ ПОМНІКІ БЕЛАРУСІ"

У нашай краіне, адзінае выдавецтва, якое пастаянна трымае ў полі свайго зроку міжвыдавецкую серыю "Літаратурныя помнікі Беларусі", -- гэта "Полымя". Нягледзячы на цяжкасці, добра зразумелыя кожнаму выдаўцу, тут робяць усё магчымае (і немагчымае!), каб гэтая бібліятэка пастаянна папаўнялася. Толькі што з'явілася яшчэ адна навінка -- "Старонкі з блізкай даўніны горада Віцебска" М. Нікіфароўскага. Гэтая кніга хораша ўпісваецца ў выданні, што ўбачылі свет, дзякуючы "Полымю" ў згаданай серыі раней -- "Люд беларускі. Вяселле" М. Федароўскага, "Падарожжа па Палессі і Беларускім краі" П. Шпілеўскага, "Вандроўка па маіх былых ваколіцах" У. Сыракомлі...

*МУЗЫКА*

## "СТРАСЦІ" ПА РАГНЕДЗЕ

Паданне аб князёўне полацкай Рагнедзе ўзята за аснову сюжэта новай пастаноўкі тэатра оперы і балета Беларусі "Страсці" ("Рагнеда").

Прэм'ера балета завяршыла 62-гі тэатральны сезон. Аўтар лібрэта і харэаграфіі -- народны артыст СССР і народны артыст Беларусі Валянцін Елізар'еў. "Страсці" -- гэта філасофскі роздум аб нашай старажытнай гісторыі, увасоблены ў танцы. Музыку да балета напісаў заслужаны дзеяч мастацтваў рэспублікі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Андрэй Мдзівані. У якасці музычнага кіраўніка і дырыжора выступіў народны артыст Расіі Генадзь Праватораў. Сцэнаграфію і касцюмы распрацаваў заслужаны дзеяч мастацтва Вячаслаў Окунеў. Хормайстар -- Ніна Ламановіч. У галоўных ролях заняты зоркі беларускага балета.

Балет "Страсці" -- вынік трохгадовай работы лепшых дзеячаў тэатра -- стваралься ў складанай эканамічнай сітуацыі, на яго пастаноўку спатрэбіліся немалыя затраты.

*ПРЫРОДА*

## У ЧЫЖОЎСКІМ ЗААПАРКУ

У Мінскім заапарку, што ў Чыжоўцы, з'явіўся навасёл -- слабенькае нованароджанае казуляня. Некалькі дзён яно пражыло ў кватэры ў мінчан, якія знайшлі яго ў лесе. А потым яны прынеслі яго ў заапарк. Тут яго адпойваюць казіным малаком. А крыху раней такім жа чынам трапіла сюды лісяня.

За апошнія паўтара месяца заапарк прытуліў і чатырох птушанят вушастых соваў, таксама знойдзеных у лесе. Не адмаўляюць тут у дапамозе і пацярпеўшым гарадскім птушкам. Усяго ж на тэрыторыі заапарка жыве каля васьмідзесяці відаў звяроў і птушак.

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

БЕЛАРУСІ пагражае пазбаўленне права голасу ў ААН -- па прычыне фінансавай запазычанасці. Першы намеснік міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь В. Цапкала на сустрэчы з кіраўнікамі дыпламатычных прадстаўніцтваў у Беларусі падкрэсліў, што існуючая сістэма фінансавання аперацый ААН па падтрымцы міру ні ў якой меры не адпавядае магчымасцям Беларусі. Дыпламаты з разуменнем паставіліся да сказанага, але які будзе адказ дзяржаў -- найбольш уплывовых членаў ААН -- пакуль невядома.

У САМЫ БЛІЖЭЙШЫ тэрмін у Мінску і іншых гарадах рэспублікі мяркуецца ўвесці пагадзінную плату за карыстанне кватэрнымі тэлефонамі. Адна мінута размовы абыдзецца ў 30 рублёў.

АДРАЗУ дзевяць жыхароў вёскі Агароднікі Кобрынскага раёна атруціліся грыбамі. Нягледзячы на інтэнсіўнае лячэнне, маці і яе трое дзяцей памерлі.

У АПОШНІ ЧАС асабліва небяспечныя інфекцыі ўсё часцей нагадваюць пра сябе. Не паспелі ўціхнуць хваляванні пасля выпадку захворвання на халеру ў Мінску, як з'явілася новая напасць: у Полацкім раёне зарэгістравана ўспышка сібірскай язвы.

23 ВІДЫ падаткаў даводзіцца плаціць сёння прадпрыемствам. За апошнія шэсць гадоў з-за дарагоўлі калгасы і саўгасы Віцебшчыны не набылі ніводнага збожжаўборачнага камбайна.

Няўжо, як і ў далёкія часы, убіраць збожжавыя хутка давядзецца сярпамі?

ЛІДЭР БНФ Зянон Пазьняк узяў шлюб з Галінай Вашчанка. Вянчанне адбылося ў касцёле святога Станіслава ў Магілёве. Г. Вашчанка займаецца дабрачыннай дзейнасцю ў адным з чарнобыльскіх фондаў, з'яўляецца дэпутатам Мінскага гарадскога Савета. У ЗАГСе шлюб пакуль што не зарэгістраваны.

УСЁ часцей у апошні час мясцовым уладам Гомельшчыны прыходзіцца парушаць заканадаўства аб шлюбе і сям'і і даваць дазвол на рэгістрацыю шлюбу непаўналетнім юнакам і дзяўчатам.

Як правіла, нявесты ідуць да шлюбу, ужо чакаючы дзіця.

# СВЯЦЕЙШЫ ПАТРЫЯРХ АЛЯКСІЙ II НА БЕЛАРУСІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Калі я быў у 1992 годзе ў Беларусі, тут закладвалася шмат новых храмаў. Тады я наведаў чарнобыльскія раёны, шпіталі, рэабілітацыйныя цэнтры. Пастырскі візіт -- сёння справа звычайная".

Напярэдадні Дня незалежнасці Патрыярх вітаў усіх грамадзян Беларусі на чале з яе Прэзідэнтам і ўрадам і пажадаў поспехаў у развіцці дзяржаўнасці рэспублікі, развіцці добрасуседскіх адносінаў паміж народамі, а таксама эканамічных сувязей.

Праграма візіту Патрыярха была вельмі напружаная. У першы ж дзень знаходжання на беларускай зямлі ён усклаў вянкі да манумента Перамогі ў Мінску, дзе адбылося кароткае набажэнства і было выказана пажаданне доўгіх гадоў уладам, воінству і народу Рэспублікі Беларусь. У сваёй рэзідэнцыіі Аляксандр Лукашэнка ўручыў Патрыярху медаль Францыска Скарыны. Аляксій II перадаў нашаму Прэзідэнту мініяцюрную копію помніка роўнаапостальнага князя Уладзіміра.



У гутарцы з Аляксіем II Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка заявіў, што праваслаўная царква з'яўляецца асновай духоўнасці беларусаў і іх славянскай сутнасці, і выказаўся за ўсямернае павышэнне ролі праваслаўнай царквы ў жыцці грамадства. Ён зазначыў, што захаванне і развіццё праваслаўя ў Расіі, на Украіне і ў Рэспубліцы Беларусь -- гэта пытанне не палітыкі, а маралі, што калі мы пазбавімся апоры на праваслаўе, мы заахвоцім духоўную, ідэалагічную агрэсію, развяжам ёй рукі.

Па словах Аляксандра Лукашэнкі, дзяржава аказвае і будзе аказваць фінансавую падтрымку дзейнасці праваслаўнай царквы на Беларусі, а таксама ў бліжэйшы час мае намер перадаць ёй шэраг будынкаў. Ён канстатаваў, што католікі і пратэстанты сталі ў Беларусі на шлях, блізкі да палітыканства: пачаліся ледзь не спартыўныя спаборніцтвы за адкрыццё касцёлаў і малельных дамоў. Прадстаўнікі ж іншых канфесій таксама праяўляюць дзіўную актыўнасць нейкага палітычнага кшалту, нібы апынуліся на зямлі, дзе ніколі не ступала нага місіянера. Было падкрэслена, што калі Патрыярх пацвердзіць гэтыя назіранні, будуць зроблены адпаведныя прадстаўленні.

Патрыярх выказаўся больш дыпламатычна, але ў цэлым падтрымаў жаданне дзяржавы паглыбляць узаемаадносіны з праваслаўнай царквой.

Патрыярх пабываў у Мінскім кафедральным саборы, у некалькіх будуемых храмах Мінска, наведаў экзархію.

Пасля Мінска Аляксій II накіраваўся ў чатырохдзённае падарожжа па Мінскай, Гродзенскай і Брэсцкай епархіях Беларускай праваслаўнай царквы.



НА ЗДЫМКАХ: Патрыярх Маскоўскі і Усяе Русі Аляксій II на плошчы Перамогі ў Мінску.

Фота Віктара СТАВЕРА.

## ВАЙНА: ШТО НАМ РЫХТАВАЛІ НАЦЫСТЫ

# ВЕДАЦЬ І ПОМНІЦЬ

На падставе гэтай дырэктывы кожны нямецкі афіцэр, упаўнаважаны аддаваць загады аб выкананні экзекуцыі, мог без суда, без дэталёвага следства і іншых фармальнасцей расстраляць кожнага падазронага ў варожых адносінах да немцаў. Дырэктыва ўстанаўлівала агульную "адказнасць" цэлых мясцовасцей, адкуль здзяйснялася нападзенне на вермахт, што абавязвала афіцэраў -- ад камандзіра батальёна і вышэй -- праводзіць рэпрэсіі.

Юрысдыкцыя "Барбароса" прадугадала з'яўленне партызанскага руху. Напад гітлераўскіх войскаў на СССР 22 чэрвеня 1941 года нарадзіў гэты рух. У загадзе вермахта ад 25 ліпеня 1941 года падкрэслівалася, што "ўсякая дабрыня і мяккасць" у адносінах да грамадзянскага насельніцтва, у выпадках актаў супраціўлення, уяўляе небяспеку, а "хуткае ўціхаміранне будзе толькі ў тым выпадку, калі будзе бязлітасна задушана ўсякая, нават самая малая пагроза з боку грамадзянскага насельніцтва".

Чалавеканенавісніцкія дырэктывы Гітлера, а таксама загады вермахта знайшлі гарачых выканаўцаў на ўсіх ніжэйшых ступенях іерархіі вермахта.

**"ЗАГАД 1:100".** Нягледзячы на драконаўскія метады і распараджэнні, у першыя месяцы вайны не ўдалося падавіць партызанскія дзеянні на часова акупіраваных тэрыторыях. Кіруючыся ўказаннямі Гітлера, які хацеў, каб "усюды выступаць з найбольш вострымі сродкамі", камандаванне вермахта ўвяло варварскія метады барацьбы з партызанскім рухам, расшырыла і санкцыяніравала захоп і расстрэл заложнікаў. За аднаго забітага нямецкага салдата загад вярхоўнага камандавання ад 16 жніўня 1941 года прадпісваў расстрэльваць 100 заложнікаў.

Надзеі акупантаў на тое, што крывавая расправа з заложнікамі прымусіць насельніцтва акупіраваных тэрыторый супакоіцца і спыніць супраціўленне, не спраўдзіліся. Вынікі аказаліся супрацьлеглымі. Варварскія экзекуцыі над невінаватымі людзьмі, якія часта не мелі нічога агульнага з партызанскім рухам, выклікалі толькі гнеў і нянавісць насельніцтва, а таксама ўзмацненне супраціўлення нямецка-фашысцкім акупантам.

**ЗАГАД "АБ ПАВОДЗІНАХ ВОЙСКАЎ НА ЎСХОДЗЕ".** Гэты "славуты" загад камандуючага 6-й арміяй фельдмаршала Рэйхенау ад 10 кастрычніка 1941 года вучыў салдат, якімі перадумовамі кіруецца нямецкае камандаванне ў вайне на ўсходзе. У загадзе канкрэтна вызначалася, якія ідэалы марыла камандаванне прывіць сваім салдатам. "Мэтай вайны, -- абвяшчаў загад, -- з'яўляецца знішчэнне жыдоўска-бальшавіцка-азіяцкай сістэмы". Нямецкі салдат прыходзіць на ўсход у якасці мсціўца. Ён павінен быць бязлітасным, не павінен кіравацца чалавечымі пачуццямі. Да апошніх Рэйхенау аднosіў, напрыклад, факты (што іншы раз мелі месца) кармлення грамадзянскага насельніцтва і ваеннапалонных з салдацкіх катлоў ці выдачы ім хлеба, папярос. Пажары трэба тушыць толькі ў тым выпадку, калі неабходны памяшканні для раскватаравання войскаў. 28 кастрычніка 1941 года загад Рэйхенау быў разасланы ўсім арміям на ўсходнім фронце як "узорны" загад, які абуджае паўсюль калі не энтузіязм, то ва ўсякім выпадку дзікія інстынкты, "знішчаючы ўсе перашкоды, парушаючы ваеннае права і звычаі".

**ДЫРЭКТЫВА "АБ НОЧЫ І ІМГЛЕ".** У ходзе вайны і ўзрастаючага руху супраціўлення, нягледзячы на драконаўскія рэпрэсіі, нямецкае камандаванне з кожным разам рабіла новыя намаганні для ўдасканалення метадаў, якія паклалі б канец партызанскаму "бедству". Калі ж метады жорсткіх распраў не далі чаканага эфекту, быў прыменены больш жорсткі метад -- метад уздзеяння страхам, які ўзнікаў ад працяглай невядомасці аб лёсе людзей, што трапілі ў рукі органаў бяспекі рэйха.

Дырэктыва "Аб ночы і імгле", выдадзеная 7 снежня 1941 года, мела такія задачы. Мэта дырэктывы -- застрашванне насельніцтва. Аб сродках, што дапамагалі дасягненню гэтых мэтаў, Кейтэль 12 снежня 1941 года гаварыў наступным чынам: "Паспяховага і працяглага застрашвання можна дабіцца толькі шляхам прымянення галоўнага пакарання (пакарання смерцю) ці шляхам утрымання родных злачынцы і насельніцтва ў невядомасці аб яго лёсе. Гэта будзе дасягнута вывазам злачынцы ў Германію". Дырэктыва вызначала наступныя "злачынствы": шпіянаж, сабатаж, камуністычная дзейнасць, дапамога парашутыстам, захоўванне зброі і г. д.

Да супрацоўніцтва для выканання дырэктывы "Аб ночы і імгле" было прыцягнута таксама СС. У тых выпадках, калі ў сілу розных прычын "злачынца" не паўставаў перад судом у Германіі, яго змяшчалі ў канцэнтрацыйны лагер, а камендант лагера быў абавязаны захоўваць строгую тайну ў адносінах да такога зняволенага і нават у выпадку яго смерці не ставіць у вядомасць сям'ю.

**ДЫРЭКТЫВА N 46.** У той час як першыя антыпартызанскія дырэктывы насілі характар канцылярскіх тэарэтычных і ідэалагічных распрацовак, то з цягам часу вопыт, набыты ў барацьбе з партызанскім рухам, паслужыў падставай для выдання канкрэтных дырэктыў, якія ўдасканальвалі арганізацыйна-тактычны бок барацьбы з партызанскім рухам. Не змяніўся толькі іх злачынны характар.

Дырэктыва Гітлера N 46 ад 6 жніўня 1942 года загадвала ўзмацніць "барацьбу з бандамі на ўсходзе", і ў гэтых мэтах давалася ўказанне скаардынаваць акцыі паліцыі і вермахта. Па гэтай дырэктыве кожны чалавек, які падтрымлівае партызан, хавае іх і г. д., павінен быў быць знішчаны. Жанчыны, дзяўчаты і дзеці, што падазраюцца ў сувязях з партызанамі (як "агенты"), павінны быць "ліквідаваны неадкладна пасля арышту". Загад аб правядзенні масавых экзекуцый мог выдавацца афіцэрамі ў званні капітана і вышэй.

Яшчэ раз санкцыяніравалася забойства дзяцей, падкрэслівалася, што войскі могуць прымяняць любыя сродкі ў барацьбе з партызанамі, незалежна ад таго, хто яны — мужчыны, жанчыны ці дзеці. Дырэктывы спасылаліся на выдадзеную ў сувязі з аперацыяй "Барбароса" інструкцыю аб тым, што ніводзін немец, які прымае ўдзел у барацьбе з партызанамі, не можа быць прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасці ці аддадзены пад суд за злачынствы, што былі здзейснены ім у адносінах да грамадзянскага насельніцтва.

На рубяжы 1942--1943 гадоў, калі радыкальна змянілася ваенная сітуацыя і шалі перамогі сталі канчаткова схіляцца на карысць СССР, можна заўважыць нейкія ваганні ў сферы нямецкага камандавання ў неабходнасці прымяняць і ў далейшым варварскія метады ў барацьбе з партызанскім рухам. Няма падстаў меркаваць, што ў гэтым выпадку дзейнічалі маральныя фактары. Відавочна, прывід прайгранай вайны і страх перад пакараннем прымусілі -- у агульнай і нязначнай ступені -- крыху аслабіць метады ў гэтай барацьбе. Пачынаючы з другой паловы 1943 года, можна сказаць, у прынцыпе спыніліся масавыя расстрэлы мужчын у раёнах, ахопленых партызанскім рухам, а летам 1944 года ў нямецкіх загадах з'явіліся сарамлівыя агаворкі аб захаванні жанчын і дзяцей.

Дарэчы, неабходна з усёй пэўнасцю падкрэсліць, што памыляліся б тыя, хто на падставе ўказаных загадаў хацеў бы ўбачыць пералом у нечалавечай практыцы немцаў, што праводзілася ў барацьбе з партызанскім рухам. Пачынаючы з ліпеня 1943 года, калі быў выдадзены загад аб кваліфікацыі партызан як ваеннапалонных, дзесяткі тысяч мужчын, "вінаватых" і "падазроных", а таксама ні ў чым невінаватых заложнікаў было расстраляна на акупіраванай тэрыторыі Беларусі. Дзесяткі тысяч было кінута ў канцлагеры і асуджана на пакутніцкую смерць.

**ІНСТРУКЦЫЯ АБ ЗНІШЧЭННІ ПАРТЫЗАНСКАГА РУХУ.** Дырэктывы і загады вышэйшага ваеннага камандавання, што тычыліся знішчэння ўзброенага супраціўлення грамадзянскага насельніцтва ў нямецкім тыле, насілі агульны характар, вызначалі агульныя мэты і характар дзеянняў.

Камандаванне нямецкай арміі ўсё часцей сустракалася з фактамі выступленняў буйных ці дробных партызанскіх атрадаў непасрэдна ў сваім тыле, а іншы раз і непасрэдна на лініі фронту. Гэта адбывалася штодзённа, толькі зімой дзейнасць партызан слабела. Камандаванне і салдаты вермахта, добра падрыхтаваныя да франтавых баёў, не былі гатовы змагацца з няўлоўным праціўнікам, які не ўступаў у адкрыты бой, а біў па найбольш адчувальных месцах, пасля чаго адразу і бясследна знікаў. Акрамя таго, дзеянні партызан, нягледзячы на колькасную і маральную перавагу акупантаў, стваралі абстаноўку няўпэўненасці і напружання ў тыле нямецкай арміі.

У сувязі з адсутнасцю планаў і інструкцый па знішчэнню такога праціўніка нямецкія фарміраванні -- пачынаючы ад самых маленькіх і канчаючы арміямі і групамі армій -- вымушаны былі назапашваць вопыт у штодзённай барацьбе з партызанамі, абагульняць яго і дзяліцца вопытам з іншымі фарміраваннямі. На падставе такіх абагульненняў з'яўляліся інструкцыі па барацьбе з партызанамі, распрацаваныя камандаваннем карпусоў, армій і г. д. Нарэшце, вярхоўнае камандаванне сабрала ўсё гэта ў адну вялікую інструкцыю, на думку немцаў, -- энцыклапедыю партызанскіх ведаў і найбольш страшных метадаў барацьбы з партызанскім "бедствам". Такая інструкцыя на вышэйшым узроўні была выдадзена ў лістападзе 1942 года. Праз паўтара года з улікам новага вопыту і ўсялякіх змяненняў яна была перавыдадзена.

Ігар КУЗНЯЦОЎ.

Працяг. Пачатак у №№ 25—26, 27, 28.

## АБ ДЗЕЙНАСЦІ СУСВЕТНАГА ЗГУРТАВАННЯ ЯЎРЭЯЎ БЕЛАРУСІ

# ІХ КАРАНІ ТУТ

**Напрыканцы мая 1993 года ў Нью-Йорку адбыўся ўстаноўчы сход Сусветнага згуртавання яўрэяў Беларусі. Каля 50 чалавек сабраліся разам, каб абмеркаваць мэты і задачы новай арганізацыі. Усе яны прадстаўлялі розныя пакаленні: адны прыехалі ў Амерыку год ці два таму, іншыя 15--20 гадоў назад, але былі і тыя, чые дзяды з'явіліся за акіянам на пачатку стагоддзя. Паяднала ж іх тое, што карані іх радаводаў знаходзяцца на Беларусі. "Мае продкі жылі ў Беларусі на працягу стагоддзяў, -- сказаў на сходзе равін Мардэхай Тэндлер, прафесар нью-йоркскага універсітэта, -- менавіта таму я не магу ставіцца абыякава да гэтай зямлі і мне не ўсё роўна, як там жывуць людзі". Тады ж прафесар гісторыі Мельцэр нагадаў, што 21 кастрычніка 1993 года спаўняецца 50 гадоў, як у Мінску былі расстраляны апошнія ахвяры гета. Дзякуючы намаганням арганізацыі, аб гэтым злачынстве фашыстаў упершыню пачалі гаварыць публічна. Кіраўніцтва Беларусі падтрымала пачынанне. Ушанаванне памяці загінуўшых вязняў гета адбылося ў кастрычніку 93 года, прайшло на дзяржаўным узроўні. Тады ж ішла гаворка аб стварэнні мемарыяла ўсім ахвярам вайны. Гэта была першая значная справа згуртавання. Аб ёй даведаліся ў розных краінах, а ў Амерыцы і Ізраілі было прынята лічыць 21 кастрычніка днём ушанавання памяці ўсіх загінуўшых на Беларусі.**

**Узначальвае Сусветнае згуртаванне яўрэяў Беларусі з першых дзён яго існавання Якаў ГУТМАН. Нядаўна ён зноў прыехаў у Мінск і завітаў у рэдакцыю, каб расказаць пра справы і праблемы згуртавання.**

*-- Спадар Гутман, вас ужо добра ведаюць у Беларусі. За кароткі час ваша згуртаванне зрабіла шмат карыснага, амаль неверагоднага.*

-- Так, мы шануем свае карані, сваіх продкаў, зямлю, на якой яны жылі. Нягледзячы на незвычайнасць пастаноўкі пытання, бо аб гэтым ніколі раней не казалі (я маю на ўвазе ўшанаванне памяці ахвяр генацыду яўрэйскага гета), мы знайшлі тады падтрымку і разуменне ў беларускага ўрада і вельмі ўдзячныя і спадару Шушкевічу, былому спікеру парламента, і спадару Краўчанку, былому міністру замежных спраў, якія зрабілі ўсё, каб падзея адбылася. І нездарма. Усё, што мы рабілі і робім, -- не толькі на карысць яўрэйскай нацыі, але і дадае аўтарытэту Беларусі, працуе на падтрымку яе незалежнасці ў свеце.

*-- Наколькі мне вядома, прадстаўнікі вашай арганізацыі прымалі тады ўдзел у святкаванні Дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.*

-- Ведаеце, з гісторыі нічога не выкінеш. Трэба пакончыць з міфам, што яўрэі "ваявалі" толькі ў Ташкенце. У мінулым годзе ў музеі Вялікай Айчыннай вайны я сустрэў двух ветэранаў вайны -- аднаго з Германіі, а другога з Ізраіля, якія змагаліся ў партызанскім атрадзе "Іскра". Праз пяцьдзесят гадоў яны сустрэліся ў музеі ў Мінску пад сцягам атрада. Трэба было бачыць іх твары ў той момант. Аб гэтых людзях, аб тым, як яны ваявалі, павінны ведаць. І тое, што на свята былі запрошаны пяць ветэранаў з Амерыкі і 15 з Ізраіля, я разглядаю як прарыў у данай справе. Больш таго, год таму я атрымаў ад Вярхоўнага Савета Беларусі 300 значкоў "50 год вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў", і напрыканцы жніўня мы ўручылі ўзнагароды ўсім, хто ваяваў на Беларусі або змагаўся ў іншым месцы за яе вызваленне. На імпрэзу прыйшло аж 600 чалавек! На ўручэнні былі карэспандэнты ўсіх галоўных яўрэйскіх выданняў Нью-Йорка, а таксама рускага тэлебачання ў Амерыцы. Уяўляеце, колькі людзей адразу даведаліся аб існаванні Беларусі!

*-- Ну, а чым вы займаецеся цяпер?*

-- Перш чым расказаць пра сённяшнія справы, мне хацелася б спыніцца на адной не зробленай намі, ці, хутчэй, не зробленай беларускім бокам справе. За 50-годдзем вызвалення Беларусі набліжалася 50-годдзе Перамогі. Напярэдадні я прыслаў сюды спіс 27 ветэранаў, а таксама пацвярджальныя дакументы на ўзнагароды іх медалём "50 год Перамогі". Некалькі разоў я званіў у Мінск. Па тэлефоне мне адказалі, што ўрадам і адміністрацыяй Прэзідэнта (яны займаліся гэтым пытаннем) было вырашана не ўзнагароджваць нашых ветэранаў. Я звярнуўся зноў да ўрада з просьбай запрасіць некаторых ветэранаў на святкаванне Дня Перамогі ў Мінск. І зноў у адказ мне патлумачылі, спаслаўшыся на эканамічныя цяжкасці, што гэта немагчыма. Але ў паперы, што мы даслалі, было напісана, што ўсе выдаткі мы бяром на сябе. Адзінае, што патрэбна было гэтым сталым ужо людзям, -- гэта знак павагі з боку беларускай дзяржавы і запрашэнне, бо без яго візу цяпер не атрымаеш.

*-- І чым вы можаце патлумачыць такія змены ў адносінах да вас?*

-- Год назад у Беларусі да ўлады прыйшлі новыя людзі. Здаецца мне, што палітыка іх недальнабачная. Калі я атрымаў адмову ад беларускага ўрада, мне нічога не заставалася, як звярнуцца ў расійскае пасольства. І там пайшлі насустрач. Першыя ветэраны ўжо атрымалі медалі ў Нью-Йорку. Прынамсі, сябры нашай арганізацыі атрымалі іх раней за іншыя суполкі эмігрантаў з былога Саюза. Вядома, напярэдадні я патэлефанаваў у беларускае пасольства і іншыя прадстаўніцтвы ў ЗША і запрасіў беларусаў на імпрэзу ўзнагароджвання. Не прыйшло ніводнага беларускага дыпламата. Беларусы не даслалі нават віншавання.

*-- Дык што вы ўсё ж такі цяпер шукаеце ў Беларусі?*

-- Два гады таму была размова аб стварэнні мемарыяла ахвярам нацысцкага генацыду ў Беларусі. Падчас майго апошняга прыезду ў Мінск я сустракаўся з прэм'ерам Чыгіром, прадстаўнікамі ўлады і спікерам парламента Грыбам, віцэ-прэм'ерам Ганчаром. Выступаў з высокай трыбуны парламента па гэтаму пытанню, каб нарэшце зрушыць справу з месца. Вярнуўшыся ў Нью-Йорк у лютым, атрымаў ліст ад міністра культуры Бутэвіча, у якім паведамляецца: "Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь даў даручэнне Міністэрству культуры і друку разам з Мінгарвыканкомам, Саюзам мастакоў, Саюзам архітэктараў, Аб'яднаннем яўрэйскіх арганізацый і абшчын распрацаваць умовы і правесці адкрыты конкурс на стварэнне помніка ахвярам генацыду яўрэяў..." Копіі я адразу даслаў ва ўрад ЗША і яўрэйскія арганізацыі, бо ў пісьме было падкрэслена, што дапамога Сусветнага згуртавання яўрэяў Беларусі ў збіранні сродкаў будзе толькі вітацца. Грошы ўжо збіраюцца. Я вось прыязджаю сюды напрыканцы чэрвеня і даведваюся, што нічога з таго часу не зрушылася. Я добра разумею, што нельга ўсё зрабіць адразу, але ўжо прайшло паўгода. Больш таго, я амаль месяц у Мінску, але дагэтуль не атрымаў ніякага афіцыйнага адказу на свой запыт ад міністра культуры, не магу з ім сустрэцца.

*-- Як я разумею, грошы на мемарыял вы знойдзеце самі. Сёння вам патрэбен толькі афіцыйны дазвол, каб распачаць працу. Можа ўжо вядома месца, дзе будзе размешчаны мемарыял?*

-- Калі ішла размова аб конкурсе, было абумоўлена, што яно будзе вызначана ў праекце. Асабіста я не ўяўляю ніякага іншага месца, як тое, дзе было 100-тысячнае гета -- ад "Ямы" да могілак па вуліцы Сухой. Наогул мемарыял мы бачым значна шырэй, чым толькі помнік у Мінску. Мы маем на ўвазе і мемарыял у Трасцянцы, дзе будуць ушанаваны не толькі загінуўшыя там яўрэі, а ўсе ахвяры гэтага лагера смерці. Пабудаваны такі музей ужо ў Вашынгтоне і будуецца ў Нью-Йорку. Але яўрэяў не забівалі ні ў Вашынгтоне, ні ў Нью-Йорку. Іх забівалі тут, у Беларусі. Тут загінула звыш 800 тысяч чалавек. Добра, калі цяперашні ўрад зразумее, што праблемы, якія ўзнікаюць тут, у Беларусі, магчыма вырашыць у кантакце з яўрэйскімі згуртаваннямі і амерыканскім урадам там, за акіянам. У гэтым і заключаецца асноўны сэнс дзейнасці нашай арганізацыі.

**Гутарыла Таіса БАНДАРЭНКА.**



Заходняя Дзвіна каля Полацка. Фота Віктара СТАВЕРА.

## НАША ЭМІГРАЦЫЯ Ў ЧЭХІІ



# ПРАГА — БЕЛАРУСКАЯ МЕКА?

Экс-міністр П. Краўчанка так назваў Злату Прагу, бо стольны горад чэхаў на працягу вякоў (яшчэ з даскарынаўскіх часоў) адчуваў беларускую прысутнасць. Асабліва важны перыяд нашых узаемадачыненняў -- між дзвюма сусветнымі войнамі. Пра дзейнасць расійскай, украінскай, беларускай эміграцыі ў Чэхіі і пойдзе гаворка на міжнароднай навуковай канферэнцыі ў першай палове жніўня гэтага года, якую праводзіць знакамітая "Slovanska knihovna ("Славянская кніжніца") пры Нацыянальнай бібліятэцы ў Празе. У вялізнай будыніне Клеменцінума выступяць з дакладамі і госці з Мінска (І. Шаблоўская з універсітэта, Г. Сурмач з ЗБС "Бацькаўшчына", Л. Мірачыцкі з Акадэміі навук і інш.). Мы маглі б завезці з сабой і мастакоўскае адлюстраванне жыцця нашай эміграцыі ў Чэхіі -- гэта раман Віктара Вальтара "Роджаныя пад Сатурнам", які друкаваўся ў свой час на старонках "Голасу Радзімы". Знойдзены ў Вільні стараннямі Скарынаўскага цэнтра рукапіс рамана В. Вальтара (1902--1931, Дзвінск) знаёміць чытачоў з дзейнасцю беларускай эміграцыі ў Чэхаславаччыне, прэзідэнтам якой стаў Т. Масарык. Сярод герояў кнігі -- маладыя людзі з абшараў Заходняй Беларусі, з беларускага Наддзвіння ў Латвіі, якія як стыпендыяты чэшскага ўрада прыехалі ў 20-х гадах у Прагу набываць веды, прафесіі, каб стаць потым касцяком адраджэнскага руху на Бацькаўшчыне. Са старонак рамана паўстаюць каларытныя фігуры тагачасных дзеячаў Беларускай Народнай Рэспублікі, якія знайшлі тут прытулак -- П. Крэчэўскага, Т. Грыба, Я. Станкевіча, П. Вяршыніна...

Прадмову да гэтага выдання "Юнацтва" (а ўжо ёсць першая карэктура) напісала сакратар рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", супрацоўніца Інстытута літаратуры Акадэміі навук спадарыня Лідзія Савік. Кніга ілюстравана архіўнымі матэрыяламі з Прагі, Рыгі, Даўгаўпілса, фотаздымкамі і малюнкамі з Прагі, слайдамі. Прыгодніцкі сюжэт, любоўныя інтрыгі, прароцкія палітычныя высновы аўтара... Усё гэта сцвярджае, што яшчэ адно імя вяртаецца ў нашу літаратуру, яшчэ адзін мастацкі твор зойме належнае месца ў творчай спадчыне нашых нацыянальных будзіцеляў.

Вось некалькі радкоў з каментарыяў, падрыхтаваных мною да гэтай публікацыі.

Мікрафільм рукапісу рамана Віктара Вальтара быў заказаны ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Акадэміі навук Летувы (аддзел рукапісаў, фонд 21, адзінка захоўвання 716) стараннямі дырэктара Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны сп. Адама Мальдзіса. На машынапісе мова арыгінала па магчымасці была захавана. Паколькі тэкст рамана перапісвалі пасля смерці аўтара некалькі вучняў гімназіі ў Дзвінску, у многіх месцах почырк быў нечытэльны і асобныя словы засталіся нерасшыфраванымі.

* * *

Дзейнасць беларускага зямляцтва ў Празе пачалася ў 1921 годзе. У 1924-м "Грамада" налічвала больш як сто чалавек. На ўскраіне Прагі, у Радоціне, жыла асноўная частка студэнтаў. Другая -- вучылася ў горадзе Падэбрады.

Студэнцкі дом знаходзіўся ў Альбяртове (вуліца на Слупі). У мястэчку Ёзафова-над-Мэтам працавалі падрыхтоўчыя курсы для будучых студэнтаў.

Чэхаславацкая рэспубліка з гуманітарных меркаванняў дапамагала ўсходнеславянскай эміграцкай моладзі, а таксама юнакам і дзяўчатам з акупаваных Польшчаю зямель Заходняй Украіны, Заходняй Беларусі (у тым ліку і беларусам з Латгале) набываць прафесіі. Для гэтага прызначаліся стыпендыі. Дыпламатычным прадстаўніком Рады БНР у Празе быў праф. М. Вяршынін. Да яго, як старшыні "Беларускай Грамады ў Празе", герой рамана Пётра Тугоўскі ішоў на вуліцу Вендзігаву, 4.

На думку былой супрацоўніцы Славянскага музея ў Браціславе Людмілы Іванаўны Краскоўскай (дачкі І.І. Краскоўскага), прататыпам Галены Вярхоўскай з'яўляецца Люба Вернікоўская -- яе каляжанка па вучобе ў Празе. Далейшы лёс "дачкі папа", у якую закахаўся Пётра Тугоўскі, стаўся такі. У 30-х гадах яна пабралася з украінцам. Маладая сям'я пакінула Прагу і выехала ў Нямеччыну.

Люба Вернікоўская, несумненна, была студэнткаю з прыгожым сэрцам і светлай галавой. У. Калеснік у кнізе "Усё чалавечае" прыводзіць пісьмо У. Жылкі да А. Луцкевіча, у якім упрошвае, каб той прысылаў на вучобу ў Прагу самых здольных выпускнікоў віленскай гімназіі: "...прысылайце разумных, думаючых хлопцаў, чэсных і любячых, якія маглі б потым з гонарам заступіць Вас, старшых. Я асабіста рад быў бы бачыць такіх, як Ільяшэвіч, Дыліс, Мэнке, Вернікоўская... Ім бы Еўропа шмат чаго дала..."

Люба Вернікоўская мела не абы-які талент даследчыка. Так, да прыкладу, у студэнцкім гуртку "Незалежнасць" выступіла ў сааўтарстве з У. Жылкам з дакладам "Пяснярскі Менск". Шкада, што яе талент быў страчаны для Бацькаўшчыны.

Бацька Любы Вернікоўскай -- Тодар (Фёдар) Вернікоўскі нарадзіўся ў 1861 годзе ў Дудзічах Ігуменскага павета. Сын псаломшчыка, скончыў праваслаўную духоўную семінарыю. Доўгі час вучыўся ў Пецярбургу. У 1918 годзе працаваў скарбнікам Менскага прадстаўніцтва БНР.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

Сяргей ПЯСЕЦКІ

# "КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ"




Частка першая

## ПАД КОЛАМІ ВЯЛІКАГА ВОЗА

*На граніцы дождж абмые,*
*А сонца абсушыць;*
*Лес ад кулі захавае,*
*Вецер крокі сьцішыць.*

**Зь песьні перамытнікаў.**

### 1

Гэта была мая першая дарога. Нас ішло дванаццаць: я і яшчэ дзевяць перамытнікаў, вёў групу "машыніст" Юзік Трафіда, бывалы, дасьведчаны праваднік; тавар пільнаваў жыд -- Лёва Цыліндар. Ношкі мелі лёгкія: кожная па трыццаць фунтаў, але былі яны досыць вялікія. Тавар несьлі дарагі: панчохі, шалікі, рукавічкі, шаўкі, гальштукі, грабеньчыкі...

Патанаючы ў змроку, сядзелі мы ў доўгім, вузкім і вільготным канале, які праходзіў пад стромістым насыпам. Угары бегла дарога, што вяла з Ракава на паўднёвы ўсход да граніцы. Ззаду мігцелі агеньчыкі Паморшчыны. Наперадзе была граніца.

Адпачывалі перад яе пераходам. Хлопцы, скрытыя ў канале, хаваючы папяросы ў рукавы куртак, курылі апошні раз перад пераходам. Курылі паволі, хціва ўцягваючы ў грудзі тытунёвы дым. Некаторыя, пасьпяшаўшыся, ужо цягнулі другую папяросу. Сядзелі на кукішках, абапёртыя на вільготныя сьцены канала плячыма, на якіх пасамі былі ўмацаваны вялікія, як плячакі, ношкі.

Я сядзеў з краю. Побач, каля выйсьця з канала, на цёмным фоне неба маячыла невыразная постаць Трафіды. Павярнуўшыся да мяне бляклай плямай твару, ён пачаў шаптаць сіпатым, быццам бы застуджаным, голасам:

-- Трымайся мяне... Разумееш? Ну і гэта... Калі б за намі пагналіся... ношкі не кідай!.. Уцякай з ношкай... Бальшавікі без тавару зловяць... прышыюць шпіянаж... тады гамон!.. Пераробяць на шаўро!..

У знак таго, што я зразумеў, кіўнуў яму галавой.

Праз некалькі хвілін вырушылі наперад. Доўгай вужакай краліся па лугавіне, ля высахлага рэчышча. Наперадзе крочыў Трафіда. Часам затрымліваўся. У той жа момант спыняліся ўсе, і, напружваючы зрок і слых, вывучалі навакольны змрок.

Вечар быў цёмны. На чорным фоне неба бліскуча мігцелі зоркі. Я імкнуўся трымацца як мага бліжэй да нашага правадніка. Ні пра што не думаў, толькі пра тое, каб не згубіць з вачэй шэрую пляму ношкі на Трафідавых плячах, бо больш нічога ня мог убачыць... Напружваў зрок, але не пасьпяваў дакладна вымяраць у цемры адлегласьць і некалькі разоў грудзьмі налятаў на праваднíка.

Убачыў далёка перад намі агеньчык. Трафіда стаў; я апынуўся побач.

-- Што гэта? -- ціха запытаўся я.

-- Граніца... ужо блізка... -- прашаптаў праваднік.

Да нас падышло яшчэ некалькі хлопцаў. Астатніх я ня мог угледзець. Паселі на вільготную траву. Трафіда зьнік у цемры: пайшоў разьведаць пераход праз граніцу. Калі праз некалькі хвілін вярнуўся да нас, вымавіў ціха і, як мне падалося, нават весела:

-- Ну, браткі, шуруем далей! ...Масалкі кімараць!..

Рушылі ў дарогу. Крочылі досыць хутка. Я трохі хваляваўся, але не баяўся зусім. Магчыма, таму, што не разумеў, на якую небясьпеку нарываюся. Цішыня, таямнічасьць нашага паходу і нават само слова "граніца" мяне толькі ўзбуджалі.

Нечакана Трафіда спыніўся. Я затрымаўся каля яго. Некалькі хвілін прастаялі без руху. Раптоўна праваднік зрабіў шырокі рух рукой, як бы праціналочы паветра з поўначы на поўдзень, і ціха кінуў мне: "Граніца!" Адразу пакрочыў наперад. Не адчуваючы зусім цяжару ношкі, я накіраваўся за ім. Напружваў увесь зрок, каб не згубіць з вачэй шэры квадрат ношкі.

Зноў пайшлі павольней. Я адчуў новую небясьпеку, але ня мог адгадаць -- якую.

Праваднік замёр. Доўга ўслухоўваўся. Пасьля, абмінаючы мяне, пайшоў назад. Я таксама хацеў вяртацца, але ён затрымаў: "Чакай!" Неўзабаве вярнуўся са Шчурам -- шчуплым, сярэдняга веку перамытнікам -- вельмі спрытным і сьмелым. Той ішоў бяз ношкі, бо яе на нейкі час узяў хтосьці зь сяброў. Спыніліся побач са мной.

-- Пойдзеш логам... Рэчку пяройдзеш па каменьнях... -- шаптаў Трафіда.

-- Каля Кабылінай Галавы? -- запытаўся Шчур.

-- Так... Чакай на другім баку!

-- Git! -- адказаў Шчур і хутка зьнік у цемры.

Праз хвіліну рушылі і мы. Трафіда паслаў Шчура "на зман". Калі б яго затрымалі, павінен быў ратавацца ўцёкамі альбо, злоўлены, так лямантаваць, каб мы яго пачулі і пасьпелі ўцячы.

Пераправы праз рэчку былі заўсёды рызыкоўнымі. Тут найчасьцей на нас рабіліся засады. Гэта было тым прасьцей, што існавала мала прыдатных мясьцін для перапраў. Ведаючы пра гэта, пагранічная ахова часта займала іх. Былі на рэчцы і брады, аднак нам не заўсёды хацелася залазіць глыбока ў ваду, каб пасьля мокрымі ісьці далей. Рызыкуючы, пераходзілі граніцу ў небясьпечных, але прыдатных для гэтага месцах.

Павольна прадзіраліся праз шырокую паласу, густа зарослую лазьняком. Тым не менш рабілі шмат шуму. Ужо здалёк я пачуў булькат вады па каменьнях, і неўзабаве мы затрымаліся на абрывістым беразе рачулкі. Моцна трымаючыся за лазовыя дубцы, я стаў каля Трафіды, чакаючы, што будзе далей. А ён лёг на бераг і памалу пачаў ссоўвацца ўніз. Праз хвіліну да мяне даляцеў прыглушаны плёскатам вады голас:

-- Спаўзай сюды!.. Жвава!..

Я лёг на бераг рачулкі, а пасьля завіс нагамі ў паветры. Трафіда дапамог мне саскочыць уніз. Потым ён памалу пасунуўся да процілеглага берагу, трымаючы мяне за плячо. Ногі сьлізгаліся па мокрых каменьнях, якія перакочваліся пад падэшвамі, рассоўваліся ў бакі.

Нарэшце пераправа закончылася. Калі, апынуўшыся на другім баку рачулкі, мы чакалі ў зарасьніку астатніх, заўважыў постаць, што высунулася зь цемры. Хутка адскочыўшы, я ледзь не ўваліўся ў ваду. Мяне затрымаў Трафіда.

-- Чаго ты?.. Гэта ж свой!..

Сапраўды, гэта быў Шчур, які разьведваў месца каля пераправы ў некалькіх сотнях крокаў ад нас.

-- Усё клёва! Можна дыбаць далей! -- сказаў ён Трафіду.

Калі ўся група перабралася, вырушылі наперад. Зараз крочылі хутка, амаль не захоўваючы асьцярожнасьць.

Неба крыху ачысьцілася ад хмар. Стала сьвятлей. Цяпер без намаганьняў мог назіраць за постацьцю пярэдняга калегі. Прыкмеціў, што той час ад часу зьмяньвае накірунак. Не разумеў толькі, зь якою мэтай.

Ішлі ўсё хутчэй. Я адчуваў сябе вельмі стомленым: смылелі ногі, бо боты былі падзёртыя, а падчас пераправы набралі вады. З радасьцю папрасіўся б у Трафіды адпачыць, але было нязёмка. Сьціснуўшы зубы, цяжка дыхаючы, з роспачу ў душы прабіраўся далей.

Увайшлі ў лес. Тут было зусім цёмна. Мы падымаліся на стромкія ўзгоркі, спускаліся ў лагчыны. Ногі запляталіся ў густой папараці, чапляліся за кусты, карэньні дрэў. Я адчуваў ужо ня стомленасьць, а нібы здранцьвеласьць у кожнай клетцы свайго цела. Крочыў аўтаматычна.

Нарэшце апынуліся на ўскрайку вялікай паляны. Тут Трафіда затрымаўся:

-- Стоп, хлопцы!

Перамытнікі пачалі скідаць зь плячэй ношкі, а пасьля класьціся на зямлю, упіраючыся ў яе плячыма і галавой. Сьпяшаючыся, я скінуў шырокія палатняныя рамяні хатуля і пачаў рабіць практыкаваньні, як яны.

Ляжаў, гледзячы ў далечыню. Прагна, на ўсе грудзі, хапаў халоднае паветра. У галаве стаяла толькі адна думка: "Каб ня так ужо хутка вырушылі ў дарогу!"

Да мяне падсунуўся Трафіда.

-- Ну як, Уладак?.. Намахаўся?

-- Н...не...

-- Ну, не кажы! Я ведаю... напачатку кожнаму цяжка!..

-- У мяне дрэнь боты. Ногі баляць.

-- А боты купім новыя... Хромавыя эф-эф! Апранешся на сто два!

Перамытнікі размаўлялі напаўголаса. Некаторыя курылі.

-- Хлопцы, добра было б пагрэцца! -- прагаварыў Ванька Бальшавік.

-- Мудра! -- хапатліва падтрымаў Болек Лорд, які не абмінаў ніводнай аказіі да выпіўкі.

Пачуўся ўдар далоні аб дно бутэлькі. Проста з рыльца Трафіда доўга піў гарэлку, закінуўшы галаву далёка назад. Пасьля падаў мне напаўадпітую пляшку:

-- Трымай! Кульні сабе!.. Лепей стане.

Упершыню ў жыцьці я піў гарэлку проста з рыльца.

-- Цягні да канца! -- падахвочваў мяне сябра.

Калі я выпіў гарэлку, ён падаў ладны кавалак каўбасы. Хлеба ў нас не было. Каўбаса мне падалася надзвычайнай. Еў з прагнасьцю, не абдзіраючы скурку. Затым запаліў папяросу, якая таксама здалася надзіва духмянай... Зрабілася весела. Адчуваў сябе выдатна. Па ўсім целе полымем разлілася гарэлка. Дадала мне новых сіл.

Амаль праз гадзіну адпачынку накіраваліся далей.

Цяпер яшчэ больш пасьвятлела. Прызвычаеныя да змроку вочы без напругі адрозьнівалі ў некалькіх метрах ад мяне рухлівую постаць Трафіды. Ісьці стала лягчэй. Мінула стомленасьць. Не адчуваў ніякай трывогі. Прытым быў пэўны ў нашым машынісьце.

На пагранíччы Юзік Трафіда слыў надзейным, вельмі асьцярожным праваднíком. Ён ніколі не разыкаваў. "На ўра" ішоў толькі тады, калі ўжо не было выйсьця. Выдатна ведаў шляхі за граніцу і кожны раз зьмяньваў іх. Адной дарогай ішлі ў Саветы, другой вярталіся назад. З ім найахвотней хлопцы хадзілі "на работу", яму гандляры давяралі самыя каштоўныя тавары. Юзік лічыўся шчасьліўчыкам, але шчасьце перш за ўсё трымалася на ягонай асьцярожнасьці... Ён ніколі не блудзіў. У найбольш цёмныя восеньскія ночы, пры страшэнным бездарожжы, рухаўся так упэўнена, нібы крочыў днём па добра знаёмай дарозе. Нюхам вычуваў напрамак.

Гэта быў мой адзіны знаёмы ў мястэчку. Мы некалі разам служылі ў войску. Пасьля сустрэліся ў Вільні, дзе я доўгі час бадзяўся без працы. Ён жа прыехаў туды на закупы. Калі даведаўся, што цярплю нястачу, прапанаваў падацца да яго на пагранíчча. Я адразу наважыўся. Пасьля пераезду ў Ракаў пасяліўся ў ягонай хаце, і цяпер упершыню мы вырушылі разам на работу. Юзік не хацеў мяне браць у дарогу. Раіў яшчэ адпачыць, набрацца сілы, але я заўпарціўся: пайду, і вырушыў зь ім пры найбліжэйшым выпадку.

Аднастайнай група Трафіды не была. Часьцяком асобныя хлопцы выходзілі зь яе і пачыналі працаваць на "ўласную руку" або далучаліся ў хаўрусы зь іншымі перамытнікамі. Іхныя вольныя месцы займалі новыя, і работа не спынялася. У залежнасьці ад колькасьці "перакíданага" праз граніцу тавару Трафіда звычайна вадзіў ад сямі да дванаццаці чалавек.

Калі першы раз у Вільні я ўбачыў Трафіду, ледзьве пазнаў яго, хоць і мінула каля двух гадоў ад часоў нашай службы ў войску. Ён схуднеў, загарэў, галаву трымаў крыху ўцягнуўшы ў плечы, нібы баючыся ўдару ззаду, вочы меў зьлёгку прыплюшчаныя. А калі я ўважліва прыгледзеўся -- заўважыў на ягоным твары шмат зморшчын. Ён відавочна пасталеў, хоць і быў толькі на пяць гадоў старэй за мяне. Па-ранейшаму застаўся вясёлым, любіў жартаваць і апавядаць показкі, але рабіў гэта ўсё больш неахвотна, нібы пад прымусам. Думкі яго луналі дзесь у іншым месцы. Пасьля, праз некалькі гадоў, я зразумеў гэта добра. Зьведаў усё тое, што хавалася ў прыплюшчаных вачах сябра, што адвыклі ад дзённага сьвятла.

Мы ішлі палямі і лугамі. Ногі сьлізгаліся на мокрай траве, абсоўваліся з вузкіх узьмежкаў, засмокталіся ў балоце. Крочылі лясамі, прадзіраліся праз кустоўе. Абміналі ўсялякія перашкоды. Мы маглі адно здагадвацца, усё ведаў толькі Трафіда. Часам здавалася, што ідзём бязмэтна, што зьбіваемся з напрамку, блукаем... Нядаўна, нібыта, узьбіраліся па стромістым адхоне пагорка, на вяршыне якога расла бяроза, што бялела ў цемры. Зараз зноў ускараскваемся па глíністай глебе, і зноў... бяроза. Меў жаданьне зьвярнуць на тое ўвагу Юзіка, аднак рабіць гэта мне не выпадала.

Крадзёмся паўз вёску. Адрозьніваю ў цемры шэрыя абрысы будынкаў. Пералазім праз плот. Ідзём па нейкай дарозе. Час ад часу ў некалькіх дзесятках метраў ад нас вынырваюць са змроку агеньчыкі ў вокнах хацін. Стараюся не глядзець туды, бо пасьля змрок гусьцее і цяжэй сачыць за постацьцю Трафіды.

Хоць ветру няма, нечакана паблізу пачынаюць захлынацца ад брэху сабакі -- пачулі нас. Мы пайшлі хутчэй. Ступаем на палявую, глíністую сьцежку. Яна нібы засмоктвае ступні ног. Намагаючыся, робім кожны крок. У мяне ўзьнікае жаданьне, нахіліўшыся, падтрымліваць халявы ботаў, якія пры кожным чарговым кроку злазяць з ног. Злосна ўядаючы, за намі пагнаўся нейкі сабака. Думаю: "Добра, што я не іду ззаду". Праз хвіліну чую сабачае скавытаньне. Усё ж перапала яму камянём.

Зноў ныраем у цемру. Пнёмся па бездаражы. Цягнемся некуды ў таямнічую далячынь. Раптам я заўважыў, што згубіў дарогу... што не бачу перад сабой Трафідавай ношкі. Пайшоў хутчэй наперад -- нікога. Бяру ўлева -- нікога. Управа -- нікога. Ззаду толькі чую злосны голас Лорда: "Чаго круцішся?" Хацеў ужо паклікаць Юзіка, але адчуў, як нехта бярэ мяне за руку.

-- Што з табой? -- запытаўся Трафіда.

-- Цёмна... Згубіў цябе...

-- Зараз будзе лепш, -- адказвае Юзік і ідзе наперад.

Цяпер ісьці выгодна. Увесь час бачу перад сабой выразную белую пляму. Яна сваім трапятаньнем нагадвае мне лунаючых у небе галубоў. Гэта Трафіда, каб было мне лягчэй за ім назіраць, заткнуў за каўнер курткі канец белай насоўкі. Зараз нічога больш не бачу навокал, толькі тая белая пляма віруе ў паветры. То шыбуе недзе ў змрочную далячынь, то зноў трапеча перад вачыма.

Алкаголь перастаў дзейнічаць на мяне. Штораз адчуваю большую стомленасьць. Адначасова ахоплівае санлівасьць. Падцягваю ўгару рамяні ношкі і, нахіліўшыся, усё валакуся наперад за плывучай у бясконцую ноч белай плямай хустачкі на Трафідавай шыі. Заплятаюцца ногі, заносіць управа і ўлева, але іду... хутчэй сілай волі, чым сілай цяглíц.

### 2

Пасьля сямі гадзін дарогі ад часу пераходу граніцы мы знаходзімся каля хутара Бамбіны. Гэта быў "пункт", зь якога перакідваўся тавар у Мінск.

Па чарзе пералазім праз паркан і пракрадаемся ў бок гумна. Я засланяю далонямі твар ад удараў галінак садовых дрэў. Зноў перамезьлі праз паркан і ўперліся ў сьцяну. Пачуў Трафідаў голас:

-- Лорд, схадзі паглядзі, як там у гумне... Жвава!

Перамытнік, прайшоўшы каля нас, зьнікае за рагом будыніны. Хутка даляцела ціхае парыпваньне павольна адсунутай завалы. Калі праз некалькі хвілін Лорд вярнуўся, кінуў нам коратка:

-- Хадзем!

У стадоле было цёпла. Пахла сенам. У цемры блíскалі захіленыя рукамі праменьні сьвятла ад ліхтарыкаў.

Чую голас Трафіды:

-- Ношкі ськідайце сюды... у кучу!.. Адным духам, хлопцы!

З уздыхам прыемнай палёгкі я скінуў з плячэй невыносны цяжар. Падышоў да Трафіды і вымавіў:

-- Юзік, мне вельмі хочацца спаць!

-- Залазь на шасток і кімар.

Трафіда паказаў на драбіну, па якой я ўзьлез на гару. Сьцягнуўшы з ног боты, накрыўся курткай і, як у цёплую ванну, праваліўся ў моцны сон.

Прачнуўся я позна. У гумне панаваў паўзмрок. Некалькі перамытнікаў сядзела недалёка ад мяне. Пацíху размаўлялі. Я пачаў прыслухоўвацца. Ванька Бальшавік апавядаў нейкую эратычную гісторыю. Гэта была яго ўлюбёная тэма. Звычайна расказваў альбо пра Думенку і яго пераемніка -- Будзёнага (ён сам некалі служыў у кавалерыі Будзёнага), альбо пра жанчын.

**(Працяг будзе).**





**Навуковымі супрацоўнікамі ствараемага ў рэспубліцы Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі за чатыры гады работы сабрана каля сямідзесяці унікальных народных музычных інструментаў. Вырашана, што гэты сапраўды неацэнны скарб не будзе ляжаць у заказніках, а будзе паказаны людзям.**

**Адкрыццё выстаўкі адбылося ў тэатральна-музычнай гасцёўні Уладзіслава Галубка ў Траецкім прадмесці Мінска. У выставачнай зале не было звыклай цішыні. Прыйшоўшых на выстаўку сустракалі народныя мелодыі і песні ў выкананні ансамбля народнай музыкі "Мінскі гармонік" на інструментах, створаных нашымі продкамі.**

**НА ЗДЫМКАХ: іграе "Мінскі гармонік"; у экспазіцыі -- народныя шумавыя музычныя інструменты.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

# ЛЮСТЭРКАВАЯ СІМЕТРЫЯ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Тыя баязліва прыкрываліся псеўданімамі, пісалі ў "жанры" даносаў, не паруніліся аргументаваць іх "рэчавымі" доказамі, адрасавалі не вышэй, чым міністру ўнутраных спраў і звычайна абражалі мясцовыя ўлады і самога адрасата вось такою прыпіскаю: "Надеемся, что Вы, Ваше Высокопревосходительство, человек русский, не перешли в еврейско-революционные руки (да "еврейско-революционного" лагера яны залічвалі не толькі газету М. Мысаўскага, але і тагачаснага мінскага губернатара графа А.А. Мусіна-Пушкіна) "на нашей окраине". А мешчанін Ш.Б. Гінзбург напісаў свой данос "самому Батюшку Царю", камічна стылізаваўшы (без злога намеру) яго пад узнёслы вернападданы даклад.

Парадокс і кур'ёз другі. Праз год Ш.Б. Гінзбург пераехаў у Мінск і быў тут пэўны час выдаўцом і рэдактарам радыкальна-ліберальных газет "Отклики Белоруссии" (NN 1--10. 19.02--1.03.1906) "Жизнь провинции" (NN 1--31. 14.04--18.05.1907). "Весь Северо-Западный край" (Вільня, NN 1--54, 3.01--6.03.1908), якія характарызаваліся наглядчыкамі ад цэнзуры вось так: "Газета была резко оппозиционного направления без ясно и определенно обозначенной программы какой-либо партии с наклонностью к чисто революционным выходкам".

Гэта была "прэлюдыя". Пераходжу да меладрамы з трагікамічным фіналам. Галоўныя дзеючыя асобы:

1. Шмід Густаў Карлавіч, праваслаўны, скончыў Ваенную акадэмію. Капітан 2-га рангу ў адстаўцы. Верагодна, па бацьку паходзіў ад прыбалтыйскіх немцаў. Заснавальнік і выдавец газеты "Минское слово" (1906--1912), якая вось так характарызавалася наглядчыкам ад цэнзуры: "Газета "Минское слово" примыкает к программе крайне правых; главная же тенденция газеты -- русская националистическая, противоиноверческая, с особенно резким направлением против поляков и евреев". Мы ж дабавім: і асабліва -- супраць беларускага нацыянальнага адраджэння. Роля Г. Шміда ў гэтай трагікамедыі -- "велікамучанік" расійскай імператарскай ідэі ў яе чарнасоценскім варыянце. 2. Духоўны натхняльнік Г. Шміда і ягоны пераемнік на пасадзе рэдактара-выдаўца "Минского слова" Дзмітрый Васільевіч Скрынчанка, наадварот саветнік, праваслаўны, скончыў Духоўную акадэмію. Быў рэдактарам "Минских епархиальных ведомостей", выкладчыкам Мінскай духоўнай семінарыі, арганізатарам Мінскага праваслаўнага брацтва. У нашай драме выступае не толькі ў ролі "змагара", але і рэзанёра, свайго роду філосафа "истинно-русского" руху ў Беларусі. 3. Шофэр Мордух Копелевіч, яўрэй, які ў расійскім кантэксце зваўся Маркам Карпавічам і выдаваў сябе за прадстаўніка рэліктавых караімаў. Спачатку юдаісцкай веры, а ў фінале нашае драмы ахрысціўся паводле праваслаўнага абраду ў мястэчку Заслаўе. Паходжанне і адукацыя не высветлены. Лічыўся спецыялістам па газетна-выдавецкай справе, быў сакратаром рэдакцый "Минского листка", "Северо-Западного края", "Белорусского вестника", "Минского слова" і інш. 4. Стальпін Пётр Аркадзьевіч. Славуты і вядомы, таму абыдзецца без даведкі. Аўтар крылатай фразы, якую сёння любяць паўтараць у друку і па тэлебачанні ўсе расійскія патрыёты -- ад радыкал-дэмакратаў да радыкал-патрыётаў: "Вам, господа,нужны великие потрясения, а мне нужна Великая Россия". 5. Рэдактары (Д.Д. Бохан, В.І. Чаусаў, І.Н. Глоба-Міхайленка, Лідзія Глоба-Міхайленка і інш.) газет "Голос провинции", "Минский курьер", "Окраина". 6. Мінскія губернатары А.А. Мусін-Пушкін, П.Г. Курлоў, Я.Е. Эрдэлі, віцэ-губернатар С.П. Межакоў-Каютаў і інш.

Месца дзеяння: губернскі горад Мінск, сталіца Санкт-Пецярбург, Галоўнае ўпраўленне па справах друку, кабінет самога Стальпіна і інш.

Віноўнікам, які справакаваў усю гэтую справу агульнарасійскага маштабу і які адыграў ролю губернскага "мелкого беса", быў ужо вядомы нам Мордух Шофэр. У чэрвені 1902 года, калі Іван Фацінскі прадаваў Міхаілу Мысаўскаму газету "Минский листок", на імя начальніка Галоўнага ўпраўлення па справах друку прыйшоў з Мінска данос нейкага Сяргея Фёдаравіча Ляонцьева, які інфармаваў, быццам бы газетаю "Минский листок" кіруе Мордух Шофэр, для якога Мысаўскі будзе толькі шырмай. Да таго ж, паводле даносаў, абодва газетчыкі не маюць адукацыйнага цэнзу. На канфідэнцыяльны запыт начальніка Галоўнага ўпраўлення па справах друку Н. Зверава мінскі віцэ-губернатар паведаміў, што ў Мінску няма С.Ф. Ляонцьева. Тым не менш М. Мысаўскаму прыйшлося апраўдвацца, даказваць сваю самаадукацыю, прысылаць пасведчанні пра цыклы публічных лекцый, прачытаных ім па гісторыі расійскай літаратуры.

Падобна, М. Мысаўскі вырашыў развітацца з Шофэрам. І той перайшоў да ягоных працаўнікаў. Справа адбывалася так.

Летам 1904 года цэнтральныя ўлады вырашылі ўзмацніць свае пазіцыі ў Мінску і даручылі свайму чалавеку, даверанай асобе начальніка Галоўнага ўпраўлення па справах друку Мікалая Зверава і рэдактару афіцыёза "Западный Вестник" Палікарпу Бывалькевічу стварыць у Мінску газету "Северо-Западная Русь" для нейтралізацыі ўплыву газеты "Северо-Западный край". У рэшце рэшт згаварыліся выкарыстаць "беларускі калярыт" і ахрысцілі новую газету "Белорусским вестником", назначыўшы адпаведную казённую субсідыю. Сакратаром газеты быў прызначаны Мордух Шофэр, які афіцыйна ў дакументах зваўся Маркам Карпавічам. Ён, відаць, быў сааўтарам "записки", свайго роду мемарандума міністру ўнутраных спраў (сакавік, 1905), падпісанага рэдактарам "Белорусского вестника" А.П. Смародскім (стацкі саветнік і правадзейны сябра Рускага геаграфічнага таварыства), памочнікам рэдактара Н. Дашэўскім і сакратаром рэдакцыі М. Шофэрам. Сутнасць гэтай запіскі ў наступным: адзіная магчымая і прыгодная форма дзяржавы ў Расіі -- самадзяржаўе; у Расіі няма ніякіх народаў (немцаў, яўрэяў, палякаў, армянаў і г. д.), а ёсць толькі "русские граждане или враги России". Аўтары запіскі абяцалі змагацца з гэтымі ворагамі і для стабілізацыі свайго непапулярнага выдання прасілі чарговую субсідыю ў суме 20 тысяч рублёў. Выбіваць гэтыя субсідыі А. Смародскі паслаў у сталіцу ўсё таго ж Мордуха Шофэра, які дамогся аўдыенцыі ў міністра ўнутраных спраў і атрымаў згоду на субсідыі газеце па 3 тысячы рублёў у год, каб "парализовать действия другой газеты, "Северо-Западный край", держащейся совершенно противоположного направления" (з ліста М. Шофэра міністру).

У красавіку 1905 года А. Бывалькевіч перадаў рэдактару "Белорусского вестника" А. Смародскаму і правы выдаўца гэтай газеты "с условием, чтобы газета поддерживала Русскую государственность на Северо-Западной окраине России", а сам паехаў у сталіцу, каб выдаваць там газету "Окраины России" і праводзіць русіфікацыю ўсіх "окраин" у агульнаімперскім маштабе. Аднак інтэлігент А. Смародскі ва ўмовах рэвалюцыйнага руху не апраўдаў даверу свайго патрона, хоць і не па сваёй віне: рэвалюцыянеры літаральна "акружылі" рэдакцыю "Белорусского Вестника" і прымусілі яе друкаваць ліберальна-выкрывальніцкія матэрыялы, вынікі славутага "курлоўскага расстрэлу". Дзяржаўныя субсідыі спыніліся -- спынілася і газета.

Але затое выплыў на паверхню Мордух Шофэр, ён жа Марк Карпавіч. Яго зноў паклікаў П. Бывалькевіч у "Окраины России". Каб пераадолець славутую "черту оседлости", Бывалькевіч стварыў легенду пра "караімства" М. Шофэра і нават "выбіў" яму "ганаровае грамадзянства". А праз год П. Бывалькевіч зноў паслаў свайго пратэжэ ў Беларусь, і вось пры якіх абставінах. У студзені 1906 года ў Мінску ўзнікла штодзённая газета праваакцябрскага кірунку "Минская речь" (NN 1--248, 3.01--2.11.1906 года), галоўным чынам для агітацыі за "истинно русских" на выбарах у 1-ю Дзяржаўную Думу. Сярод яе заснавальнікаў -- сяброў Таварыства народнай цвярозасці лекара Івана Здановіча і Дзімітра Радзевіча быў рэвізор Лібава-Роменскай чыгункі Густаў Шмід. Вось ім П. Бывалькевіч рэкамендаваў М. Шофэра сакратаром рэдакцыі. Г. Шмід тады пачынаў палітычную кар'еру: яго прапанавалі кандыдатам у Дзяржаўную Думу ад Саюза 17 октября пры падтрымцы "окраинного русского союза" і прарасійскага праваслаўнага брацтва.

"Минская речь" не справілася са сваёй задачай. Тады Г. Шмід адапхнуў сваіх "сабратаў" па Таварыству народнай цвярозасці і заснаваў штодзённую чарнасоценскую газету "Минское слово" (NN 1--1585, 4.11.1906--15.06.1912), узяўшы з сабою сакратаром рэдакцыі ўсё таго ж М. Шофэра. Парадокс ужо ў тым, што галоўным спецыялістам антысеміцкай бульварнай газеты быў яўрэй. Аднак антысемітызм і антыпольскасць яе моцна перабольшаны спачатку цэнзурай, а пасля даследчыкамі. На самай жа справе газета "Минское слово" была створана для штодзённых атакаў на беларускае нацыянальнае адраджэнне, газету "Наша ніва" і наогул на ўсю беларускую справу. Вось галоўны "запеў" шмідаўскай газеты: "Враги России -- поляки стараются обособить нас, западнорусских людей, и измышляют к этому всевозможные способы: издают белорусскую азбуку, белорусскую газету. К этому их поощряют неразумные русские люди: проф. Погодин (в "Слове"), З. Митрок (в "Белой Руси"), Ядвигин Ш. (в "Белорусском Вестнике"), Д. Бохан и др., ратуют за белорусский язык... Если в этнографии существуют белорусы, то в политике и по национальности их не должно быть. Не надо нам ни белорусского, ни малорусского, ни великорусского языков, а довольно с нас одного общего языка русского, который мы любим и отлично понимаем, в десять раз лучше, чем тот белорусский, который преподносят наши невежды". Да гэтых "невежд" Шмід і яго кампанія залічвалі ўсіх беларускіх пісьменнікаў і асветнікаў ад Францішка Багушэвіча да Янкі Купалы.

А вось палітычнае крэда Шмідавай чарнасоценскай хэўры: "Белоруссия есть неотделимая часть русского государства, у которого (г. зн. у "государства". -- **У. К.**) должна заимствовать язык вместе с литературой". Мішэнню сваіх паклёпніцкіх выпадаў Шмід выбраў "Нашу ніву" і беларускі народ: "Читать подобную белорусскую газету по меньшей мере противно. Грубый деревенскій говор, который можно слышать только на белорусской ярмарке с его "гэный", "гэтый", с его "браў", "взяў", "даваў" целиком воспроизводится в печати. Какая громадная разница между сильным, энергичным языком Гоголя, Тургенева, Достоевского, Толстого и этой жалкой пародией на литературу, созданную белорусскими грамотеями! Белорус темен. Дайте ему возможность впитать в себя богатую по мысли и по слогу литературу старшего его брата -- великоруса, отбросит он варварский язык польского холопа".

Восенню 1907 года Г. Шмід быў выбраны ад мінскіх акцябрыстаў "рускай курыі" дэпутатам у Дзяржаўную Думу. Але тут адбылося непрадбачанае: "истинно русский" Густаў Карлавіч, верагодна, пасварыўся з "истинно русским" Мордухам Капелевічам. Злыя языкі казалі, што Мордух Шофэр разведаў пра сакрэт няўдалай кар'еры Г. Шміда па ваенна-марскому ведамству і паслаў шыфры "сакрэтных" дакументаў апанентам Шміда -- ліберальна-дэмакратычным рэдактарам газет "Голос провинции", "Окраина" і "Минский курьер", якіх шмідаўская газета абзывала "провинциальными рептилиями кагала". І тады мінскія дэмакраты адкрылі ў сваіх газетах залпы па дэпутату Дзяржаўнай Думы Г. Шміду. А сярод іх былі вопытныя юрысты.

Захавалася ў архіве аб'ёмнае "Дело об исключении из избирательных списков коллегии выборщиков члена Государственной Думы Г .К. Шмида". Аказваецца, што лідэр мінскага "окраинного русского союза" ў бытнасць сваю марскім афіцэрам садзейнічаў перадачы нямецкай ваеннай разведцы сакрэтных планаў Кранштацкай крэпасці, за што быў разжалаваны і засуджаны на дзесяць гадоў. Аднак пазбег катаргі, пабыў толькі ў ссылцы. За "асаблівыя заслугі" (верагодна, за русіфікацыю Беларусі) быў памілаваны "по высочайшему повелению Николая II" ад 23 кастрычніка 1906 года. Тайна гэтая была раскрыта падчас выбараў. Аднак ва ўмовах вялікадзяржаўнага чаду, пры падтрымцы мясцовых уладаў і праваслаўных колаў Шміду ўдалося прайсці ў II Дзяржаўную Думу, выступіць там з прамовамі і нават паспрабаваць узначаліць "окраинные истинно русские союзы".

**Уладзімір КОНАН.**

**(Заканчэнне будзе)**

*ПАМЯЦІ КРАЯЗНАЎЦА*
*Данілы ВАСІЛЕЎСКАГА*

# "ПАСЫЛАЮ ВАМ КАРТАЧКУ..."

Думка ў бацькі працавала, але... бяссільная ўжо думка. І планы. Калі мы ў Феадосію яго адвезлі, ён і там сабраўся пісаць... Часам з'яўляліся ў газетах мясцовых маленькія нататкі яго... Вось жа нават аб Ефрасінні Полацкай сабраўся пісаць бацька мой.

Запіскі разрозненыя. Зразумела, што не на кафедру нам яго пускаць было...

Пасылаю Вам картачку, якую тата любіў. Варкута. Тундра. 1945 г., калі мы прыехалі (ён як я цяпер, нават маладзейшы). Тундру бацька любіў. Ён быў калектарам на буравых у тундры. Яго буравымі майстрамі былі бандыты з тэрмінамі ад 25 да 100 гадоў (набягала за злачынствы ўжо там)... Але вось гэтыя людзі паважалі і любілі бацьку. Пераносілі яго на спіне цераз бурлівыя рэкі ў часе пераездаў буравых. А пасля змены ён садзіўся пасярод буравой на табурэт і чытаў лекцыі. Пра Пушкіна. Пра што заўгодна. Яго слухалі. Калі ж хто захропваў -- рука бурмайстра хутка прыводзіла ў належны стан слухача. Калі мы прыехалі, мае бацькі бралі для буравікоў перасоўныя бібліятэкі і, раздаючы кніжкі, гутарылі з імі аб прачытаным.

Калі бацькі выходзілі на пенсію, іх праводзіла шмат буравікоў. Вярнуліся яны дамоў, расплакаліся абое, расцалаваліся, як перад расстрэлам... Я выскачыла з дому -- не магла глядзець. Але яны хутка ўзялі сябе ў рукі. Мама крэмень была, гэта мы з бацькам плаксы. А потым стараліся "заняць" бацьку -- пішы, толькі на Беларусь не пускалі...

Дзякуй Вам. Рада я, што цень бацькі ўжо ў роднай яго Беларусі".

Сярод прысланых Алай Данілаўнай алоўкавых нататак Данілы Мінавіча быў і такі накід:

"Всесоюзная Книжная Палата. Отдел "Летопись журнальных статей"

Москва, Кремлевская набережная Москва-реки

Уважаемые товарищи!

Изменчивость нашего времени заставляет меня с тысячью сердечных извинений обратиться к Вам за помощью. Дело в следующем. В первой половине 20-х годов нынешнего века была напечатана в белорусском журнале "Полымя" моя статья: "Д.М. Василевский. Кто написал поэму "Тарас на Парнасе". Во время Отечественной войны сгорела моя библиотека со всеми рукописями. С тех пор я не могу установить, когда, в каком N журнала "Полымя" была напечатана указанная мной статья. Рецензия на нее на русском языке была напечатана в газете "Звезда", а затем моя заметка в этой же газете по поводу рецензии".

Не інакш, надзвычай цікавае пытанне пра аўтарства "Тараса" не пераставала займаць Васілеўскага і пасля гулагаўскага пекла, пасля варкуцінскай ссылкі. Толькі многае ён падзабыў. Ягоны артыкул у "Полымі" называўся "Арцём Вярыга...", і было гэта не ў першай палове, а ў самым канцы 20-х гадоў. Газета "Звязда" ў той час выходзіла па-беларуску. Трэба было адшукаць у "Звяздзе" водгукі на палымянскую публікацыю Васілеўскага. Пра гэтыя водгукі я нічога не ведаў.

Штудзірую ў нашай Ленінцы (цяпер Нацыянальная бібліятэка) падшыўку "Звязды" за другую палову 29-га года. Тады якраз пачаўся наступ на беларускую інтэлігенцыю. Усе нібыта пашалелі. Газета напоўнена лаянкай, бязглуздымі абвінавачваннямі. Абліваюцца памыямі прышчэпаўцы, друкуецца пакаяннае пісьмо вядомага гісторыка, прэзідэнта Акадэміі навук У. Ігнатоўскага. Нехта "С." у артыкуле "За марксісцкія кадры ў Беларускай Акадэміі навук" распінаўся, біў сябе ў грудзі, ніяк не верыў у шчырасць працаўнікоў беларускай навукі, іх ідэйную "перакоўку": "Марксістам стаў і Шчацціхін. Былы містык, які прайшоў на практыцы нетры багаслоўя ўсіх веравызнанняў, якія мелі месца ў Беларусі -- зараз ён дае ў "марксісцкім" асвятленні гісторыю... іконапісі і царкоўных убранняў, выдаючы іх за беларускае народнае мастацтва. Марксістам стаў Смоліч... Чарга -- ці што -- зараз за праф. Замоціным, прафесарам, які прымаў актыўны ўдзел у дзянікінскім "Осваге"?" ("Осваг" -- "Осведомительное агентство" Дзянікіна). Нехта выказваў праз газету абурэнне: "Чаму і на падставе якіх прычын калегія Наркамата Асветы прадставіла да ордэну Працоўнага Чырвонага Сцягу такога махровага рэакцыянера, як Эпімах-Шыпіла?" Словам, ці не ўсе лепшыя тагачасныя працаўнікі беларускай культуры апынуліся раптам у нейкім штучна створаным варожым лагеры.

Прамой рэцэнзіі на палымянскую публікацыю Васілеўскага я не знайшоў, але водгукі таго, што гэтая досыць нявінная ў палітычным плане публікацыя выклікала ў пэўных колах незразумелую злосць і трывогу, рашучае непрыняцце, былі ў выступленнях на вераснёўскім сходзе мінскага партактыву: "Мы цярпелі гадамі прапаганду контррэвалюцыйнай нацыянальна-дэмакратычнай ідэалёгіі праз часопісь "Полымя", "Савецкую Беларусь", праз некаторыя падручнікі... У свой час не лічылі патрэбным рашуча змагацца з гэтым. Памыляліся. Мы ў сучасныя дні, у разгар клясавае барацьбы, бачым, як нацыянал-дэмакратызм злосна пайшоў у атаку на нашу ленінскую нацыянальную палітыку, супраць дыктатуры пралетарыяту. Чарада выглашаных (праз друк і вусна) "тэорый", як: далей ад рэвалюцыйнай Масквы, бліжэй да капіталістычнага Захаду, адмаўленне ў існаванні беларускай буржуазіі, стварэнне нацыянал-дэмакратычных герояў (Кастуся Каліноўскага, Вярыгу-Дарэўскага), фальсіфікацыя гісторыі КП(б)Б, ідэалізацыя "Нашай нівы" і г.д. і інш. -- усе гэтыя і падобнага роду зьявы не прадстаўляюць сабой нічога для нас нечаканага і "загадачнага". Трэба разумець клясавую барацьбу ў нашай краіне, трэба ведаць зрухі ў фашысцкі лагер Пілсудскага беларускай буржуазнай інтэлігенцыі ў Зах. Беларусі. Трэба нарэшце зразумець гэтую сувязь!" ("Звязда", 1929, 13 верас.). Хутчэй за ўсё, гэта толькі адна з нападак на артыкул Васілеўскага, які і сёння даследчыкі лічаць надзвычай грунтоўным і карысным. Усё гэта прымусіла Васілеўскага звярнуцца ў "Звязду" з наступнай заявай, якая трапілася мне на старонках газеты:

"Таварыш рэдактар!

У артыкуле "А.Вярыга і яго літаратурна-грамадская чыннасць" ("Полымя", N 6) зроблены мною памылкі, неўгрунтаваныя дапушчэнні, якія аб'ектыўна могуць быць выкарыстаны варожымі нацыянал-дэмакратычнымі элементамі ў класава чужых нам мэтах. Прызнаючы шкоднасць сваіх памылак, я пастараюся выправіць іх у крытычным нарысе літаратурна-рэвалюцыйнай дзейнасці А. Вярыгі. Лічачы нацыянал-дэмакратызм асабліва шкодным на сучасным этапе нашага сацыялістычнага будаўніцтва, буду больш узмоцнена весьці непрымірымую барацьбу з панска-буржуазнай, нацыянал-дэмакратычнай ідэалогіяй і няўхільна праводзіць генеральную лінію КП(б)Б у сваёй штодзённай працы.

Беларускім рэвалюцыянерам Вярыгу не лічу.

**Д.Васілеўскі".**

*("Звязда", 1929, 4 кастр.).*

Вось з такім пакаянным пісьмом быў вымушаны выступіць сумленны працаўнік. Ды хто тады толькі не каяўся. Новых прац пра Вярыгу, пра аўтарства "Тараса" ён ужо не здолеў надрукаваць. І ўвогуле Васілеўскі болей амаль не друкуецца, а калі яго імя і з'яўляецца на старонках друку, то ў вельмі небяспечным кантэксце. Напрыклад, у 1931 годзе ў Мінску выйшаў "баявіты" зборнік, сама назва якога гучала як грознае пракурорскае абвінавачванне: "Навука" на службе нацдэмаўскай котррэвалюцыі". У адным з матэрыялаў чытаем: "Артыкулы Васілеўскага, артыкулы Каспяровіча ў "Нашым краі", гістарычны нарыс у кнізе Каспяровіча "Краязнаўства", выступленні на I і II Усебеларускіх з'ездах краязнаўства -- усе гэтыя матэрыялы ў адзін голас, адчынена, без усякай сарамлівасці, устанаўліваюць ідэёвую і арганізацыйную сувязь сучаснага нацдэмакратызму ў краязнаўчым руху БССР з беларускім буржуазна-нацыяналістычным рухам у дарэвалюцыйныя часы". Калі ўлічыць, што вядомы крытык, краязнавец, лексікограф Мікола Каспяровіч быў ужо да гэтага часу высланы ў Сібір, то можна ўявіць, якую небяспеку для Васілеўскага ўяўлялі падобныя пасажы. На шчасце, арышты 1930 года яго абмінулі, лёс даў яму адтэрміноўку на шэсць гадоў...

...Між тым з Масквы ішлі новыя пісьмы з адказамі на мае пытанні ды і проста з успамінамі, думкамі, асацыяцыямі.

"...сёння атрымала Вашу кнігу. Вы сабе не ўяўляеце, што гэта значыць! Тата былінкай бы хацеў вярнуцца на Беларусь, а тут ён вярнуўся памяццю...

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**Працяг. Пачатак у №№ 27,28.**

# ПРАГА — БЕЛАРУСКАЯ МЕКА?

**(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).**

У кабінеце Р. Скірмунта -- дзяржаўны скарбнік. Ва ўрадзе Я. Серады -- народны сакратар гандлю і прамысловасці, дзяржаўны кантралёр, народны сакратар гаспадаркі. Сацыялістычныя погляды іншых дзеячаў БНР не падзяляў. Быў двойчы рэпрэсіраваны. Памёр у Браціславе.

Дзейнымі асобамі твора, не пазбаўленага іроніі, сарказму, якія няздмушана праяўляюць сябе ў самых складаных і драматычных сітуацыях, з'яўляюцца прадстаўнікі многіх нацыянальнасцяў, у тым ліку і народаў Каўказа. Найбольш каларытна выпісаў аўтар тых, хто быў навідавоку, у самай завірусе падзей... Сярод іх і Янка Станкевіч (1891--1976), які нарадзіўся ў вёсцы Арляняты на Ашмяншчыне. Вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі, працаваў у газеце "Наша ніва". Удзельнічаў у рабоце Першага Усебеларускага кангрэса (1917). Арганізоўваў беларускую асветную справу на Віленшчыне.

У Празе стварыў першую беларускую студэнцкую арганізацыю -- "Таварыства беларускіх студэнтаў". Са згоды Беларускага камітэта атрымліваў фінансавыя сродкі Чэшскага універсітэцкага камітэта на дапамогу беларускаму студэнцтву, на выданне друкаванага органа "Беларускі студэнт". Атрымаўшы званне доктара навук, працаваў у Віленскім універсітэце. Памёр у ЗША. Аўтар "Беларуска-расійскага (Вялікалітоўскага) слоўніка".

Адзін з герояў рамана Тамашэвіч, дзядзька Тамаш -- гэта Тамаш Грыб. Нарадзіўся ён у 1895 годзе. Удзельнічаў у рабоце Першага Усебеларускага кангрэса. Адзін з аўтараў Устаўных грамат Беларускай Народнай Рэспублікі, абвешчанай 25 сакавіка 1918 года. Уваходзіў ва ўрад БНР. Лідэр беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў. З 1921 года -- у Празе, дзе і памёр 21 студзеня 1938 года. Муж Паўліны Мядзёлкі (1893--1974).

"Пад гоман вясёлы" -- песня, створаная Паўлінай Мядзёлка-Грыб напрыканцы 1921 года ў вагоне, калі яна ехала ў Кракаў на спатканне з мужам Тамашом, які быў на той час у турме. І хаця аўтарка звяртаецца ў сваім творы да канкрэтнага чалавека, вобраз вязня стаў сімвалам беларуса, які аказаўся за кратамі-межамі -- пад белапольскай акупацыяй. У Заходняй Беларусі песня "Пад гоман вясёлы" займела незвычайную папулярнасць. Адзін з яе варыянтаў запісаны такі:

**Пад гоман вясёлы, пад звон**
**чары поўнай,**
**Пры зборы ўсіх нас на бяседзе**
**такой**
**Успомнім мы, брацці, аб**
**долі няроўнай,**
**Пра ўсіх тых, хто церпіць**
**за край родны свой.**

**З гарачай душою ўсе**
**лепшыя сілы,**
**Што выйшлі з народу,**
**з сялянскай сям'і.**
**Адных ужо крыюць**
**курганы-магілы,**
**Другія -- у мурах**
**за кратай турмы.**

**У Познань і Кракаў, ў**
**далёку чужыну,**
**Загнаны ў няволю ён быццам**
**навек,**
**Бацькоў старых кінуў**
**і мілу дзяўчыну,**
**А сам церпіць голад, і холад,**
**і здзек.**

**І тварам збялелым прынікшы**
**да кратаў,**
**Ён зоркі шукае на небе глухім,**
**Каб думкі занесла да роднае хаты,**
**Каб кліч перадала**
**сабраццям сваім.**

**Змагайся, мой дружа,**
**з тыранам народу,**
**Змагайся з наезнікам-панам,**
**як можаш,**
**Змагайся за лепшую**
**долю-свабоду,**
**Хоць цяжка змаганне,**
**а ўсё ж такі зможаш.**

**Пад гоман вясёлы, пад звон**
**чары поўнай,**
**Пры зборы ўсіх нас мы**
**прысягу даём:**
**"Не зломяць нас віхры**
**у бітве няроўнай,**
**За здзек з нашых брацця ў**
**мы помсту нясём.**

Крэчэўскі Пётра Антонавіч -- палітычны дзеяч, паэт, драматург. Нарадзіўся на Кобрыншчыне 7 жніўня 1879 года. Пасля сканчэння Віленскай духоўнай семінарыі працаваў настаўнікам. Удзельнік абвяшчэння БНР. 13 снежня 1918 года абраны Старшынёй Народнай Рады дзяржавы (паводле іншых азначэнняў -- прэзідэнтам). З 1920 года -- у эміграцыі (Коўна). У 1923 годзе пераехаў у Прагу. Памёр там 8 красавіка 1928 года "ад сухотаў і тугі па Бацькаўшчыне".

Згаданая ў рамане падпольная група, у якую добраахвотна ўвайшоў Пётра Тугоўскі, не прыдумка аўтара. На тэрыторыі Заходняй Беларусі дзейнічалі партызанскія атрады К. Арлоўскага, С. Ваўпшасава. Іх камуністычнае кіраўніцтва разлічвала на паўстанцкую барацьбу як на адзіны сродак уз'яднання Заходняй Беларусі з БССР.

У той жа час урад БНР арганізоўваў дружыны, мэта барацьбы якіх -- утварэнне беларускай дзяржавы, федэратыўна звязанай з Літвой. Паводле кнігі У. Калесніка "Усё чалавечае", у 1923 годзе польская контрразведка выкрыла на Беласточчыне паўстанцкае падполле, якім кіраваў урад БНР з Коўна. Яно было разгромлена. Але перад гэтым былі выпадкі, калі леваэсэраўскія баявыя дружыны супрацоўнічалі з камуністычнымі атрадамі. Пры польскай акупацыі агульнанароднае супраціўленне на тэрыторыі Заходняй Беларусі каардынавалася з нацыянальным супраціўленнем на тэрыторыі Заходняй Украіны.

Дырэктарам Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі з 1922-га па 1925 год, які адпраўляў героя рамана на вучобу ў Прагу, быў Іван Ігнатавіч Краскоўскі. Нарадзіўся ён у 1880 годзе на Гродзеншчыне. Вучыўся ў Пецярбургу. Працаваў у Кіеве. Служыў украінскаму, беларускаму нацыянальна-дэмакратычнаму Адраджэнню.

З лета 1925 года, вярнуўшыся з Латвіі, працаваў у БДУ. Быў рэпрэсіраваны ў 1930-м і ў 1937 гадах. Вызвалены са зняволення ў 1940 годзе. Выехаў да дачкі ў Браціславу, дзе і памёр у 1959 годзе.

Пасля І. Краскоўскага дырэктарам гімназіі ў Дзвінску стаў С.П. Сахараў. З гэтай навучальнай установай паяднлі свой лёс Паўліна Мядзёлка-Грыб, Уладзімір Пігулеўскі, Пётра Міраковіч, Міхась Калінін, Пятро Сакол (Масальскі), Мікола Талерка, Язэп Камаржынскі -- мастакі, паэты, рэжысёры... У гімназіі выступаў Вацлаў Ластоўскі, выкладаў Максім Гарэцкі, вучыліся Ігнат Дварчанін, Уладзімір Жылка...

* * *

Прытулак у Празе, магчымасць працаваць, здзяйсняць сваю культурную і навуковую чыннасць знайшлі і такія сыны славянскага свету:

Кошыць Аляксандр Антонавіч (1875--1944) -- украінскі харавы дырыжор і кампазітар. У 1919 годзе стаў эмігрантам. Памёр у Канадзе.

Лявіцкі Арэст Іванавіч (1848--1922) -- украінскі гісторык, правазнаўца, археограф, архівіст і пісьменнік, акадэмік АН УССР (з 1919 года).

Ляцкі Яўген Аляксандравіч нарадзіўся ў Мінску ў 1868 годзе. Гадаваўся пад Барысавам. Даследчык беларускага фальклору і этнаграфіі. У Празе загадваў кафедрай гісторыі рускай мовы і літаратуры Карлава універсітэта. Аўтар "Нататак па беларусазнаўству". Курыраваў беларускае студэнцкае зямляцтва. Памёр у 1942 годзе. Пахаваны на Альшанах.

Сам аўтар рамана залічвае сябе да людзей няшчаснага лёсу, роджаных пад Сатурнам. Віктар Вальтар не акцэнтуе, хто ж нясе цяжкі крыж: ці толькі яны, вымушаныя эмігранты, або ўвесь народ, які іх спарадзіў?

Ну а што мог бы сказаць сам Сатурн? Сатурн, у адрозненне ад жыватворнага Солнца, мае знішчальную сілу. Паводле астралагічных азначэнняў, ён згубца, вораг прыроды. Сатурн -- планета атрутная, халодная і сухая. У выказваннях астролагаў ёсць і такое: "Калі б Сатурн быў так блізка да Зямлі, як Месяц, то на нашай планеце стаяла б вечная зіма".

**І на заканчэнне -- новая справа для выдавецкага рэдактара -- прасіць спагады ў магчымых чытачоў кнігі, каб тыя, хто мае намер набыць яе, напісалі аб гэтым на адрас выдавецтва "Юнацтва" (220600, Рэспубліка Беларусь, Мінск, пр. Машэрава, 11). Гэтым самым вы дапаможаце набраць неабходны тыраж, і кніга цікавага аўтара на цікавую тэматыку зможа пабачыць свет.**

**Сяргей ПАНІЗЬНІК,**
**намеснік старшыні Рады таварыства "Беларусь -- Чэхія" імя М.І. Забэйды-Суміцкага.**

# "СЛАВЯНСКІ БАЗАР-95"

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).



1-я прэмія дасталася ўкраінскай спявачцы Наталлі Магілёўскай, 2-я -- Тэймуразу Борджгуа з Грузіі. Трэцяе месца падзялілі Вольга Прадзіна (Расія) і Тоні Чакыраў (Балгарыя).

Сёлета фестываль, на які сабраліся "самыя славянскія" прадстаўнікі культуры, пашырыўся: у ім удзельнічалі розныя віды мастацтва -- музыка, кіно, паэзія. Знаёмствы, сустрэчы, прэзентацыі, прэс-канферэнцыі.

На дзяржаўным узроўні найбольш трапяткія адносіны да фестывалю адчуваліся з боку кіраўніцтва Беларусі. Аляксандр Лукашэнка падымаўся на сцэну віцебскага амфітэатра, каб прывітаць самы надзённы сёння фестываль, і запэўніў: што "Славянскія базары" яшчэ доўга будуць весціся на Беларусі, мы іх нікому не аддадзім". Прэзідэнт паабяцаў арганізатарам сваю падтрымку, дапамогу з боку ўрада Беларусі -- трэба думаць, не толькі маральную, але і матэрыяльную.

На жаль, у многіх удзельнікаў і гасцей фестывалю ўзнікала думка: дык што гэта было -- свята мастацтва ці палітычнае шоу.

І справа не толькі ў тым, што маскоўскі архімандрыт айцец Інакенцій заклікаў вярнуць целу святой Русі "адсечаныя рукі" -- Беларусь і Украіну. Дастаткова беглага позірку на спіс краін, што былі прадстаўлены на фестывалі, каб зрабіць надзвычай несуцяшальныя высновы наконт прынцыпаў, якімі кіраваліся арганізатары, ладзячы гэта свята. Беларусь, Расія, Украіна, Балгарыя, Сербія... А дзе Чэхія, Славакія, Славенія, Польшча, Харватыя? Чыя рука правяла мяжу паміж Усходам і Захадам, паміж славянамі-праваслаўнымі і славянамі-каталікамі?



Прыкра, бо нараджалася ўсё з Віцебска некалькі гадоў таму зусім па-іншаму, без ідэалагічнага сіта, без дыктату і навязанай чужой волі, без дзялення славян на "нашых" і "не нашых". Уласна, і пачынаўся фестываль яшчэ ў канцы 80-х са свята беларускай і польскай эстрады -- тады з Варшавы сюды прыехалі ледзь не ўсе польскія зоркі. І Беларусь дэманстравала якраз яднанне ўсходніх і заходніх славян, іх культур -- што надзвычай імпануе нашай краіне, якая знаходзіцца на стыку гэтых культур.




Навязаная ідэалогія адчувалася нават у дробязях: яшчэ год таму з вуснаў вядучых на роўных гучалі беларуская, украінская і руская мовы. Цяпер ад гэтага адмовіліся -- напэўна, таксама ў імя "святой Русі"?

Пра духоўнасць і прыгажосць наўрад ці выпадае гаварыць там, дзе пачынаюцца палітычныя амбіцыі і дэманстрацыя процістаяння і насцярожанасці. Прыгожая высакародная ідэя -- стварыць вянок з усіх фарбаў, усіх кветак -- пры спробе абскубці з гэтага вянка тыя фарбы, якія некаму падаліся чужымі, наўрад ці здольная прывесці да поспеху.

У Віцебску выбіралі таксама "Міс Славянку-95". Конкурс быў зроблены прафесійна. Удзельнічалі ў ім шаснаццаць прыгажунь-пераможцаў нацыянальных конкурсаў з Расіі, Украіны, Балгарыі, Польшчы, Беларусі, Югаславіі, Македоніі. Большасць з іх не з'яўляліся прафесіянальнымі манекеншчыцамі.

Дзяўчаты дэманстравалі калекцыі адзення расійскіх мадэльераў. Абавязковым быў выхад прыгажунь у нацыянальным касцюме. Дырэктар конкурсу Таццяна Андрэева зацікавілася беларускімі касцюмамі. Магчыма, на наступным свяце (а яно абавязкова будзе) на подыуме славянскага конкурсу ўдзельніцы з'явяцца ў адзенні беларускіх мадэльераў.

У межах свята славянскай прыгажосці адбылося свята беларускай прыгажосці. Вольга Раля з Віцебска стала "Міс фота", а мінчанка Алена Бушуева -- "Міс Зачараванне", не кажучы пра галоўны тытул "Міс Славянка-95", які таксама належыць беларусцы Алене Кудрашовай. Першай "Віцэ-міс Славянка-95" журы назвала Магдалену Пенчыкевіч з Польшчы, другой -- раскошную прыгажуню з Балгарыі Кацю Трыфанаву.

НА ЗДЫМКАХ: Прэзідэнт А.ЛУКАШЭНКА знаёміцца з экспазіцыяй музея Марка Шагала; зоркі сусветнай эстрады на "Славянскім базары"; аўтограф дае госць фестывалю амерыканскі акцёр Лэйн ДЭВІС, выканаўца ролі Мэйсана ў тэлесерыяле "Санта-Барбара".

Фота Аляксандра ХІТРОВА.

## У БЕЛАРУСІ ЗВЫШ СТА КАНДЫДАТАЎ НА АЛІМПІЯДУ

Да Алімпіяды ў Атланце застаецца год. 19 ліпеня 1996 года ў чашы стадыёна гэтага амерыканскага горада ўспыхне алімпійскі агонь, прынесены з Грэцыі -- краіны, якая падаравала свету дзіўныя спаборніцтвы дружбы, дабрыні, узаемаразумення паміж народамі.

Напомнім, што беларускія спартсмены ў саставе зборнай СССР упершыню прымалі ўдзел у гульнях, якія праходзілі ў Хельсінкі ў 1952 годзе. Залатых медалёў яны тады не заваявалі, аднак трывала замацаваліся ў саставе алімпійскай зборнай былога Саюза. З таго часу ні адна алімпіяда ўжо не праходзіла без прадстаўнікоў нашай рэспублікі. Усяго яны заваявалі 120 медалёў. Вышэйшыя ўзнагароды на рахунку беларускіх барцоў, фехтавальшчыкаў, лёгкаатлетаў, весляроў, штангістаў, стралкоў, гімнастаў...

Самую багатую алімпійскую калекцыю сабраў Віталь Шчэрба, які ў Барселоне ўстанавіў своеасаблівы рэкорд. Ён заваладаў усім "золатам" на турніры гімнастаў. Чатыры разы чэмпіёнкай станавілася рапірыстка Алена Бялова, тройчы -- барэц Аляксандр Мядзведзь, двойчы -- штангіст Аляксандр Курловіч. Цяпер наша алімпійская будзе выступаць асобнай камандай. Мяркуецца, што беларускія спартсмены прывязуць з Амерыкі 18--20 розных медалёў. У ліку кандыдатаў рыхтуюцца цяпер да паездкі ў Атланту звыш ста спартсменаў. Каля 40 з іх ужо маюць алімпійскія ліцэнзіі. Астатнім яшчэ трэба перамагчы ў адборачных стартах.

## НОВАЯ МІЖНАРОДНАЯ ЭКСПЕДЫЦЫЯ Ў ГІМАЛАІ

Чацвёра беларускіх альпіністаў -- Сяргей Новікаў, Эдуард Ліпень, Ірына Велянкова і Аляксандр Шынкарэнка -- прымуць удзел у новай міжнароднай экспедыцыі ў Гімалаі.

14 горнаўзыходжвальнікаў Беларусі, Балгарыі, Італіі, Расіі і Швейцарыі паспрабуюць падняцца на вяршыні дзвюх гор-"васьмітысячнікаў" -- Дхаўлагіры (8 168 метраў) і Анапурны (8 095 метраў). Экспедыцыю мяркуецца правесці ў верасні-кастрычніку.

## ДА НАС ЕДЗЕ ПРЭЗІДЭНТ

У сярэдзіне кастрычніка Беларусь наведае прэзідэнт УЕФА Ленарт Юхансан. Пакуль невядома, з якой мэтай прыязджае да нас такі высокі госць, але ёсць меркаванне, што цікавасць прэзідэнта еўрапейскага футбольнага саюза да нашай краіны выклікана паспяховым выступленнем у апошні час беларускіх зборных у адборачных гульнях.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77).
Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 2860.
Падпісана да друку 31. 7.1995 г.